“***Цярпець каменьні, стрэлы Лёсу, ці зрушыцца на мора крыўдаў і зьнішчыць іх Змаганьнем?”*** **– Шэксьпір,Гамлет**

## Уводзіны

Дыктатура Лукашенко разбурыла і знішчыла ўсё карыснае, усё людская, пачынаючы ад маралі і .. далей да мясцовага самакіраваньня.

У гісторыі беларусаў народны сход жыхароў гарадоў , а потым самакіраваньне праз Магдэбурская права – гэта працяглая традыцыя беларусаў.

Сістэма дыктатара Лукашенко горшая за сістэму КПСС, асабліва ,гарбачоўскую. Гэта я ведаю на асабістым пракладзе. Калі мне,беспартыйнаму, дапамог атрымаць жыльлё сакратар ЦК КПБ, то падчас дыктатуры “ППБ” усе мае правы не абаронены і парушаюцца. І ня толькі мае, усіх жыхароў РБ.

Можна зрабіць дакладны паліталагічны аналіз , па пунктам, і паказаць, што сітуацыя менавіта такая. Але такога аналізу ў гэтай кнізе ня будзе.

Я прапаную ўспомніць дэмакратыю “*ад зямлі*”, то бок, пачатак сапраўднай дэмакратыі – “улада народу” (лат.) у

XX –м стагодзі. Так , менавіта КПСС, пад кіраўніцтвам Міхаіла Гарбачова пачала дэмакратызацыю. Пачатак быў у "бізнесу" – дазвол на "каапературатывы", якія былі інструментам для назапашваньня багацьця намеклатурай. Памятаем як камсамольцы "рванулі" у кампутаравы бізнес, але ня толькі..

Але КПСС Гарбачова прапанавала таксама новы інструмент дэмакратыі: лакальнае самакіраваньне, то бок, самакіраваньне на роўні вуліцы, малой вёскі, мікрараёну ў горадзе . Быў прыняты адпаведны Закон:"Закон СССР от 09.04.1990 n 1417-i "Об общих началах местного самоуправления и местного хозяйства в СССР"

Вельмі магчыма, што задума камуністаў была такая ж, як і "З'езд дэпутатаў СССР" – рэальнай ўлады няма, але "пратэстная пара" будзе выходзіць бязь "к.п.д."..  Тым больш, што вядома (зараз , дакладна) , што мясцовыя адзінкі КПСС павінны былі кіраваць і ў гэтым "лакальным самакіраваньні"....  Але атрымалася вельмі па-рознаму.. Выпадак, калі людзі з дэмакратычнымі поглядамі, а дакладней з прынцыпамі рэальная справядлівасьці "узялі ўладу" быў і ў нашым Менску..

Вось такі прыклад я і прапаную ўсім ахвотным ведаць .

## Вецер пераменаў

Як пачалася «Перестройка» і якія былі "канфігурацыі", планы кіраўніцтва КПСС ўжо дастаткова вядома і многа кніжак напісана. Але галоўная: тады з'явілася Інфармацыя, а **не прапаганда**, замаскаваная пад інфармацыю.

Многія газеты тады ,на гвалт сталі дэфіцытным таварам,

“падпіску” на самыя цікавыя газэты “разыгрывалі” як латарэю ў працоўных калектываў.  Так і я , навуковец, які ,ужо крыху быў дасведчаны, што ёсьць палітыка, “выцягнуў” падпіску на “АіФ” (Мой пачатак грамадзянскай дзейнасьці  - гэта актыўнасьць у абарону “Верхняга Гораду ў Менску і , потым, патрабаваньне беларускай мовы ў школах і дзіцячых садках, сустрэчы ў “коле Беларусаў”.Гл. Кнігу,”МАЁ ЗМАГАНЬНЕ”)

Ну дык вось, пачаў я чытаць “АіФ”, атрымліваць Інфармацыю. Але такіх “чытачоў” ужо была многа.  Дык вось гэтыя разумнікі пачалі думаць: як бы гэта згуртавацца для вырашэньня  лакальных праблемаў.  У выніку, актыўныя людзі пачалі збірацца на вуліцы і абмяркоўваць ,перадусім , лакальныя, “вулічныя “ праблемы.  Гаворка будзе пра мікрараён “Уручча” у Менску. Гэта на той час (1989г.) зусім новы мікрараён, які і толькі пачаў будавацца.

Я таксама, пасля 10 год “у чарзе” атрымаў у гэтым мікрараёне кватэру.

І вось неяк пры размове  з калегам (Інстытут Акадэміі Навук) зайшла размова, што ў мікрараёне ўжо многа дамоў (шматпавярховых) паставілі, а на інтэрэсы жыхароў улады забыліся. І вось калега, Дмитрий Ландо, прапанаваў мне ( па месцу жыхарства, «Уручча», Менск) далучыцца  да стварэньня першага на Беларусі КГС, Камітэта грамадзкага самакіраваньня.

Мая дзейнасьць у КГС была значнай, але то «сацыяльная дзейнасьць», не палітычная, якая дапамагла і ў маёй палітычнай дзейнасьці (гл.  Кніга  ”МАЁ ЗМАГАНЬНЕ”)

**Мікраён «Уручча-1,2,3» Менск**

Мікрараён знаходзіцца на ўсходзе Менску (на Москву), і мяжуе з вялікай вайсковай базай, спецвойскі , танкавая дывізія і іншыя. Суседства з вайскоўцамі мае ўплыў і на цывільны мікрараён, перад усім , значная частка жыхароў – гэта вайскоўцы. З другога (заходняга) боку мікрараёну, навуковыя інстытуты Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі і унікальны Парк камянёў. (глядзіце мапу) На час існаваньня КГС, Камітэта грамадзкага самакіраваньня, «Уручча-1,2,3" у мікрараёне жыла больш 20 000 людзей, самага рознага сацыяльнага паходжаньня., простыя працаўнікі заводаў, навукоўцы, афіцэры-вайскоўцы, дзяржаўныя служачыя і жыхары былой вёскі, на месцы якой паўстаў мікрараён. Мікрараён, як то называюць: "спальны"—заводаў,фабрык там не была. Зразумела, што былі крамы, школы (4-ы) , паліклініка, рэстаран, пошта, "сберкаса".

Камунальнай гаспадаркай Мікрараёну кіравалі два "ЖЭС".

Дамы былі пабудавана як дзяржавай, так і за ўласныя грошы грамадзянаў –"кааператывы".

Я не маю дакладна лічбаў наконт узросту жыхароў, але "на вока", большасьць людзей была сярэдняга узросту, а не "*малады раён*", як некаторыя "дэмакраты", называлі.

**КГС, Камітэт грамадзкага самакіраваньня,**

**«Уручча-1,2,3» Менск.**

**1989г. --**

Пачатак

КГС быў афіцыйна зарэгістраваны ў 1990 г., але размовы пачаліся ў 1989, і стаў сапраўды школай Дэмакратыі. Так, нам дапамог закон СССР, які даваў вельмі шырокія магчымасьці жыхарам, якія маглі рэальна вырашаць праблемы нашага мікрараёна, дзе жылі больш за 20 000 людзей. Сябры Камітэта грамадзкага самакіраваньня (большаць з вышэйшай адукацыяй) ухвалілі асноўны прынцып дзейнасьці КГС: ***прапануеш нешта зрабіць, добра – але і ты, сам, павінен дзейнічаць згодна са сваёй прапановай***.

Я, ад пачатку, быў вельмі актыўным дзеячам КГС, адначасова, я быў кіраўніком ( ад 1990) уручанскай суполкі БНФ "Адраджэньне".

На другім Праўленьні (другі тэрмін) мяне абралі намеснікам старшыні Камітэта грамадзкага самакіраваньня, «Уручча-1,2,3». Такая мая дзейнасьць на двух (трох, бо і дэпутацтва) «пасадах» дазваляла мне вырашаць праблемы жыхароў мікрараёна і ,рэальна, мацаваць аўтарытэт БНФ.

Але спачатку ініцыятарамі КГС былі камуністы.. З цягам часу, паступова, мы ,самаробныя дэмакраты, перамаглі камуністаў – большасьць у КГС была за намі. Атрымалася такая перамога не адразу. Спачатку, згодна з планамі мясцовай адзінкі КПСС, якая арганізавала сход жыхароў – прыйшлі менавіта сапраўды актыўныя людзі і ,канешне, члены КПСС ( с "поручением").

Дык вось вызначаныя праз КПСС людзі пачалі Сход, распавялі пра мэты Сходу і прапанавалі абраць

кіраўніцтва.  Тады (1989 г.) зразумела, абралі “члена КПСС»,  т.Кислова. Абралі таксама і  “актыў” , які пачаў працу над Статутам і падрыхтоўку  КГС да  афіцыйнай рэгістрацыі  .

Якія гэта былі людзі: першыя КГС-саўцы  мікрараёна Уручча-1,2,3» ?

Перад усім як  ўтвараўся КГС ? Горад Менск, новы мікрараён, які пабудавалі за (фактычна) межамі Менску на тэрыторыі былой вёскі. Дамы (блочныя, шэрыя) шматпавярховыя, 9 – 15 павярховыя  (на той час).  Дамы пабудавала дзяржава (бюджэт горада) так і каапературывы.

Дык вось, мы ініцыятары-актывісты хадзілі па пад’ездах і праводзілі сходы , каб выбраць дэлегатаў на  Агульны Сход  жыхароў мікрараёна Уручча-1,2,3. А потым гэты Сход абіраў КГС.

Звычайна людзі самі сябе прапаноўвалі ў склад КГС. Гэта была добрай практыкай: бо ўсе ведалі  аніякіх ільготаў, грошаў, такое “членство” не дае.   А калі чалавек сам хоча працаваць на грамадзтва задарма, то сапраўды  ён будзе актыўным.

Першы склад КГС мікрараёна Уручча-1,2,3» быў амаль цалкам, з актывістаў-ініцыятараў, якія пачалі сваю дзейнасьць яшчэ ў 1989 годзе.

Выбачайце, у мяне няма таго першага спісу складу  КГС, а таму  маё ПРАБАЧЦЕ для  тых людзей.  Але гэта былі самыя розныя людзі, навукоўцы, лекары, інжынеры, вайскоўцы і простыя працаўнікі. Нацыянальнасьць актывістаў таксама была розная: беларусы, рускія, жыды. Размаўлялі ўсе на рускай мове.
Я вельмі хачу адзначыць , перад усім, 2-х актывістаў:

Мікола Бусьнюк і Доліво Розалія,  якія былі актыўнымі ад пачатку існаваньня КГС і да канца.

Розалія просты маляр, адукацыя  толькі сярэдняя школа, часта  выказвала разумныя прапановы, але галоўная , заўсёды была на грунце справядлівасьці.

Мікола Бусьнюк, кандыдат матэматычных навук,  ягоная дзейнасьць патрабуе  асобнай кнігі. Але галоўная тое, што ён быў сталым ,амаль ад пачатку да самага канца , Старшынёй  КГС мікрараёна Уручча-1,2,3»( ад 1990 г.) Жыхары мікрараёну абіралі яго  3-ы разы дэпутатам Менскага гарадскога Савету (таксама і Савету дэпутатаў Першамайскага раёну). Падкрэсліваю, што праца ў КГС аніякіх ільготаў не давала і для Старшыні. Толькі напрыканцы  дзейнасьці КГС ,  была прызначана яму невялікая аплата. Мікола Бусьнюк заўсёды вельмі мужна змагаўся за інтэрэсы жыхароў і патрабаваў ад выканаўчай улады дзейнасьці на карысьць жыхароў і, вельмі дакладна, згодна з Законам. Дарэчы , ён падняў яшчэ адну цяжкую працу: заснаваў і быў рэдактарам незалежнай газеты “Наша УРУЧЧА”.

Толькі ягоным клопатам (цяжкая справа) была знаходзіць грошы  на друкаваньне  і на распаўсюджваньне газэты. А часам і судзіцца з несумленнымі “обижеными” бізнесменамі. Я таксама ,адзін раз, браў удзел (на баку Міколы) у такім судовым працэсе.

Я таксама павінен падкрэсліць, што **Мікола Бусьнюк** мне вельмі дапамог у цяжкую хвіліну майго жыцця: **Вялікі Дзякуй** яму. Таксама дзякуй,чальцу КГС спадару Літвініку, які ,фактычна, даў мне кватэру. Чаму? Вы зразумееце (калі прачытаеце ўсё), што я быў вельмі актыўным ( і ўплывовым) дэпутатам і актыўным чальцом БНФ.

Напярэдадні вельмі няпэўных выбараў для дыктатара Лукашенко (2001г.), “КГБ” (з дапамогай маёй былой жонкі) пачало спецаперацыю супраць мяне.У выніку , у мяне адабралі ўсё матэрыяльнае: маю кватэру, мае ўсе рэчы, а потым, пазбавілі (фактычна) мяне працы ў АН РБ.

Але , яшчэ раз.

Я хачу звярнуць увагу,што менавіта актывісты КГС былі выбраны дэпутатамі Першамайскага раённага Савета дэпутатаў у 1990 .

Менавіта мая актыўная дзейнасьць у КГС падняла і аўтарытэт БНФ, што дазволіла ( і праз маю «PR”актыўнасьць) выбраць Прэзыдэнтам РБ (выбарчая акруга ў 1994 г.) апазыцыянера, **кіраўніка БНФ** “Адраджэньне”.

То бок, прыклад актыўнай працы з жыхарамі і дапамога ім у сацыяльных праблемах, што фактычна стварае аўтарытэт “*абаронцы людзей*” для актывіста.

## Дзейнасьць

Правы сяброў КГС выкладзены ў Законе , а таксама ў Статуце. Сутнасьць тых правоў простая: сябры КГС маюць права мець памяшканьне, вольна збірацца на пасяджэньне, абмяркоўваць праблемы і рабіць прапановы ўладным структурам для вырашэньня праблемаў. Пасяджэньне КГС звычайна збіралася 1 раз на тыдзень. Па жаданьню сяброў, размяркоўваліся адказнасьсць (то бок , увага) за пэўныя сацыяльныя праблемы. Але галоўная дзейнасьць была для Старшыні, ягонага намесьніка ( яны адначасова былі дэпутатамі мясцовых Саветаў дэпутатаў), а таксама бухгалтара.

Чаму дзейнасьць КГС была важнай? Бо нехта скажа , дык былі ж “Саветы”: Першамайскі Савет народных дэпутатаў і Менскі гарадскі Савет народных дэпутатаў ….

Але ўсе начальнікі ва ўладзе былі камуністамі, **большасьць дэпутатаў у Саветах народных дэпутатаў былі камуністы** (былыя  “члены КПСС”). Зразумела, што такія Саветы баранілі інтэрэсы начальнікаў, а не жыхароў горада. Асабліва гэта відавочна зараз, пры татальнай дыктатуры.

Дык вось ціск жыхароў праз КГС дазваляў  вырашаць такі канкрэтныя праблемы.

Першай справай, якую зрабіў КГС была ўсталяваньне інфармацыйнага стэнду.

Стэнд быў усталяваны на сцяне крамы “Першамайскі” ,у самым цэнтру мікрараёну. На стэнд падавалася інфармацыя аб дзейнасьці КГС і праблемах жыхароў.Пазней, больш пашырана, такая інфармацыя была ў газеце “Наша Уручча”, якую выдаваў Мікола Бусьнюк, і я быў журналістам  газэты.

КГС спрабаваў стварыць уласнае радыё, нават  быў зроблены  тэхнічны праект радыё для Уручча. Але новыя “бізнесмены”  не далі  грошы. Улада, зразумела , таксама не дала грошы на Радыё, бо мы былі “апазыцыя”.

Базар

Як вы зразумелі мікрараён Уручча-1,2,3» - гэта спальны мікрараён, дзе жыла вялікая колькасьць людзей, але была толькі тры невялікія крамы (гіпермаркетаў тады ўвогуле ў Менску не была). Асаблівая праблема была купіць гародніну і садавіну. Так, была вельмі маленькая крама: садавіна –гародніна…. Жыхары прасілі КГС каб ён дамогся ва ўладаў стварэньня базару ва "Уруччы"….. Зразумела, што кіраўнікі КГС мікрараёна Уручча-1,2,3» неаднаразова звярталіся да выканкама Першамайскага раёну з такой прапановай. Але трэба адзначыць, што той час (1991 – 1995 гг.) быў і эканамічна цяжкі. Фінансы раёна былі не ў лепшым стане.

Заявы дэпутатаў ад мікрараёна Уручча-1,2,3» на сесіях Першамайскага Савета народных дэпутатаў таксама не дапамаглі ў гэтай справе: няма грошаў.

Вось тады, Старшыня КГС , Мікалай Бусьнюк , сам знайшоў чалавека, які зрабіў праект базару, потым дамовіўся аб вырабе сталоў для базару.

Праект базару ён аддаў у выканкам Першамайскага раёну для зацвярджэньня …. Зацвердзілі. Далей на паседжаньні КГС абмеркавалі арганізацыю дзейнасьці базару і вызначылі "аплату" ад прадаўцоў за карыстаньне месцамі. Пачалі шукаць "касіра". Старшыня КГС , Мікалай Бусьнюк знайшоў ахвочага, пенсіянера, жыда (беларускае слова) Мойшу.

Сталы для базару былі пастаўлены (укопаны) каля універсаму Першамайскі (цэнтр мікрараёна "Уручча-1,2,3») - базар пачаў дзейнічаць.

Хутка, на гэты базар пачалі прыязджаць вяскоўцы  каб прадаць сваю гародніну (у асноўным), меней  была яблык.

Такім чынам, жаданьне і патрэба жыхароў мікрараёна "Уручча-1,2,3» была рэалізавана.

Я вымушаны таксама ўзгадаць непрыемны выпадак. Пад канец *** дзейнайсьці базару, пасля чарговага  збору грошаў з прадаўцоў базару…..

Старшыня КГС ня змог сустрэцца з касірам КГС, Мойшам.. Праз нейкі час ,мы даведаліся, што наш “касір” выехаў з Беларусі. Што цікава, выехаў  з грошамі КГС, то бок , скраў грамадзкія грошы.   ( ***Базар скончыў сваю дзейнасьць пасля ліквідацыі рэгістрацыі КГС лукашенкаўскай уладай.)

Працавалі далей

Дзейнасьць  КГС мікрараёна "Уручча-1,2,3» працягвалася. Сябры КГС збіралі прапановы  жыхароў, размаўлялі з людзьмі, вызначалі найбольш “гарачыя”праблемы. Далей на КГС была абмеркаваньне: як гэтыя праблемы можна вырашыць.  Звычайна, Старшыня Мікалай Бусьнюк нёс прапановы КГС у Першамайскі раённы выканкам. Некаторыя праблемы, якія не патрабавалі дадатковага фінансаваньня , вырашаліся.

На жаль, з кожным годам грамадзкая актыўнасьць жыхароў змяншалася , відавочна была, што людзі прынялі метад жыцця: “*кожны ратуецца сам, свая сям’я – маё ўсё*”.  Такую сітуацыю пацвердзілі выбары  дэпутатаў у 1995 годзе : галасаваць , выбіраць дэпутатаў прыйшло вельмі мала людзей – выбары не адбыліся,дэпутаты ,усіх “Саветаў” не былі выбраны ўручанцамі.

Трэба падкрэсліць, што “сіла” КГС мікрараёна "Уручча-1,2,3» грунтавалася, перадусім , на дэпутатах Першамайскага Савета народных дэпутатаў, якія былі актыўнымі  дэпутатамі.

Пасля выбараў (1994) першага прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, у КГС пачаліся канфлікты  з кіраўніцтвам Першамайскага раённага  выканкама. Большасьць сяброў КГС падтрымлівала БНФ – Беларускі Народны Фронт “”Адраджэньне”. Старшыня КГС, Мікалай Бусьнюк, не быў сябрам БНФ, але не перашкаджаў дзейнасьці мясцовай суполкі БНФ. Але намесьнік Старшыні КГС, Валеры Грыцук, быў кіраўніком мясцовай суполкі БНФ. Сябры БНФ карысталіся доўгі час памяшканьнем КГС.

Дзейнасьць КГС працягвалася . Другім “ударам” для КГС была ліквідацыя раённых, у гарадах, Саветаў  дэпутатаў.. Больш падрабязна далей па тэксту.

У 1999г. (калі не памыляюся) кіраўніцтва Першамайскага раённага  выканкама праняла рашэньне аб ліквідацыі рэгістрацыі  КГС мікрараёна "Уручча-1,2,3».

Але дзейнасьць КГС, асабліва арганізацыя базару, паказала кіраўніцтву раёна , што базар у гэтай частцы горада вельмі патрэбны. На  той час, “Уручча” ужо  мела вялікую колькасьць дамоў і па другі бок “маскоўскай шашы” (гасцінца). Такім чынам была "Уручча-1,2,3» + "Уручча-4,5,6 ». Выканкам Першамайскага раёна прыняў рашэньне стварэньня вялікага базару ва  "Уручча-1,2,3».

Трэба адзначыць, што жыхары дамоў, паблізу якіх, павінен быць базар напісалі некалькі лістоў у выканкам , што “*мы супраць базару каля нашага дому*”.

Старшыня выканкама ,Іван Мацкевіч разам з прадстаўніком КГС "Уручча-1,2,3», Валеры Грыцуком, сустрэўся з жыхарамі, на вуліцы, каля дома жыхароў, якія пісалі скаргі.

Сустрэча адбылася, але жыхароў на ёй была вельмі мала, каля 15 чалавек.

Вось гэта чарговы прыклад, як “на сваёй кухні” людзі абураюцца, а калі трэба з начальствам паспрачацца, то – “***у кусты***”.

Так ,сярод прысутных, на гэтым вулічным сходзе, была 3 чалавека , якія крычалі, што мы супраць базару. Асабліва напінаўся адзін, навуковец (мой калега з працы),які нават абражаў мяне, што я падтрымліваю ўладу.

Але я выказаў прапанову КГС: выканкам павінен даручыць КГС кантроль за дзейнасьцю базару. Але крыкуны крычалі “*мы против*» і не чулі прапановы…. А астатнія ,нават не выказаліся адносна прапановы КГС.

Для мяне была відавочна, што базар абавязкова будзе пабудаваны. Месца для базару была выбрана прыдатнае.

Галоўным “аргументам” пратэстуючых была: наведавальнікі базару будуць выкарыстоўваць “*подъезды нашего дома как туалеты»* . Гэты нібы “аргумент” быў проста смешны…. Самая цікавая, насупраць базару ёсьць невялікі лясок…. Але канешне, базар мае туалеты.

Зразумела, што вялікі базар быў пабудаваны, але бязь кантролі КГС, бо абыякавыя жыхары не падтрымалі прапанову КГС "Уручча-1,2,3».

**ДОТЫК “Чарнобыльскай катастрофы”**

Была яшчэ адна значна ініцыятыва КГС ( канкрэтна, мая,Валеры Грыцука).

У 1990 годзе, ад Уручча дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР быў выбраны вучоны , акадэмік, Яўген Канапля.

Я звярнуўся да яго з прапановай дапамагчы стварыць “***Пункт дазіметрычнага кантролю прадуктаў”*** ва "Уручча-1,2,3». Для праверкі прадуктаў на “радыяцыю”. Дэпутат, акадэмік, Яўген Канапля даў нам адпаведны прыбор.

У маленькім памяшканьні крамы “Універсам Першамайскі” некалькі год дзейнічаў такі “Пункт”. Вельмі часта і я ,асабіста, правяраў там грыбы, ягады, бульбу …. Пункт 2-а гады месціўся ў будынку Першамайскага універсаму. Скончыў ён сваю працу, перадусім, таму, што значна паменьшылася колькасьць жадаючых праверыць свой “прадукт”.

Дарэчы, ягады і грыбы, якія нам прыносілі на праверку, у 90% выпадкаў былі радыёактыўныя. Былі выпадкі, што нават бульба крыху “зашкалівала”. Потым я зразумеў адкуль тая бульба. Мікрараён “Уручча 5” пачаў прыймаць “перасяленцаў з чарнобыльскай зоны”….

**<u>Выснова:</u>** на маю думку стварэньне і дзейнасьць Камітэтаў Грамадзкага самакіраваньня карысна для вырашэньня простых,на кожны дзень, праблемаў жыхароў і, КГС спрыяюць стварэньню грамадзянскай супольнасьці.

У дэмакратычным грамадзтве КГС можа быць сапраўднай школай Дэмакратыі, школай падрыхтоўкі актыўных і адукаваных дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў.

Але мая грамадзкая дзейнасьць была больш шырокая: я быў ініцыятарам -заснавальнікам **каля 10- ці грамадзкіх арганізацый** ,НУА (NGO). У 90-х XX-га ст. большасьць людзей яшчэ баяліся грамадзкай актыўнасьці. Вось таму, калі нейкі Грамадзянін ствараў НУА, то ён прасіў быць сябрам-заснавальнікам ужо вядомых актывістаў. Вось НУА, дзе я быў кіраўніком: **Адукацыйны цэнтр "Правы Чалавека", Фонд імя Льва Сапегі (Ген.Сек.), сацыяльны фонд "Уручча", Дэпутацкі Клюб "Дэпутаты за рэформы" г.Менску.**

Вядома, дыктатуры разумеюць каштоўнасьць структуры КГС: для мяккага кіраваньня людзьмі. Так ,напрыклад, Узбекістан і зараз мае аналагі Камітэтаў Грамадзкага самакіраваньня (махалі), то бок, нібы "выбіраюць" кіраўніка, але рэальна, такая "махаля" рэальна кантралюе кожнага жыхара ў ягоным штодзённым жыцці. Таксама ствараюць свае як бы «НУА», мімікрыя «дэмакратыі» .

Зараз жыхары горада бязь Камітэтаў Грамадзкага самакіраваньня , бязь (**рэальных**) дэпутатаў Савета раёну, нават бязь адказаў на запісы ў "Кнізе скаргаў" і лісты " Президенту» вымушаны выходзіць на стыхійныя мітынгі, на "блокады". Але такія акцыі ў сістэме дыктатуры вельмі рэдка маюць поспех. Стыхійныя пратэсты жыхароў , асабліва пасля 2019 г.. паказалі, што КГС і раённыя дэпутаты павінны быць. Усе эўрапейскія сталіцы ( і нават Масква) маюць аналагі Саветаў дэпутатаў **раёнаў горада.**

КГС-саўцы

**Вось гэтыя чальцы КГС былі выбраны дэпутатамі Першамайскага Савета народных дэпутатаў г.Менску:** Бусьнюк Мікалай, Вяргейчык Уладзімір, Гашкоў Валерый, Грыцук Валерый, Доліво Розалія, Касаревіч Яўгеній, Кіслоў Яўгеній, Лешчоў Барыс, Патаповіч Іван, Пліскоўская Людміла.

Акрамя Кіслова і міліцыянта Вяргейчыка , усе гэтыя дэпутаты былі ў “Дэмакратычнай фракцыі”.

**Дэпутаты**

Выбары 1989г. , выбары дэпутатаў СССР.

То былі першыя ў СССР-БССР амаль сапраўдныя выбары.

Чаму амаль? Ды таму, што яшчэ кіравала КПСС і яна зрабіла “фільтр” для кандыдатаў у “кандыдата”. Кожны такі грамадзянін павінен  паказацца на сходзе “працоўных” раёна.  Мясцовая арганізацыя КПСС рабіла вельмі проста: загадзя, у залю Сходу прывозіла “проверенных партийцев». Зразумела, што апазыцыйны кандыдат «отсекался». Так адбылася і ў Першамайскім раёне г.Менску, адпаведна , у выбарчую акругу  “Уручча“ прапанавалі” члена КПСС  навукоўца  і шэраг “ стойких коммунистов».. Трэба дадаць, што ў  Першамайскім раёне знаходзілася  ( і зараз) Акадэмія Навук  і некалькі вельмі важны’ навуковых інстытутаў. У раёне таксама  была некалькі вельмі важных заводаў “ВПК”—вайскова-прамысловага комплексу.

Каля мікрараёна  Уручча  была   3-ы інстытута  АН БССР і 1-н завод ВПК.  Дык вось, КПБ-КПСС, прапанавала нам , уручанцам, навукоўца-эканаміста, Журавлёва. Ён тады ,модна, гаварыў аб новых задачах эканомікі, рынкавай эканоміцы і г.д. На той час выглядаў «прогрессивным»….

Я, як сябра БНФ, далучыўся да выбарчай кампаніі.

Лідэр БНФ прапанаваў ( у нашай акрузе) падтрымаць«эканаміста» Журавлёва.

З дапамогай сяброў БНФ і “новых дэмакратаў” Журавлёв быў выбраны дэпутатам СССР. Але вельмі хутка Журавлев забыўся і на БНФ і, на Беларусь.

Але “народ”,грамадзяне тады сапраўды пабачылі, што іх “Голас” вырашае.

Агульна “кандыдатаў” у выбарчым бюлетэню была больш за 10 . Дарэчы, я быў чальцом “участковай выбарчай камісіі” – галасы мы лічылі, фальсіфікацый не была. Вось тады, я даведаўся, што ў нашым Уруччы жывуць афіцэры “КГБ”.

## Выбары 1990

Выбары ў 1990 годзе можна лічыць, былі дэмакратычнымі. Калі вылучэньне “кандыдатаў” у склад Вярхоўнага Савету БССР КПБ-КПСС спрабавала кантраляваць, то адносна “мясцовых”, сапраўды была дэмакратыя**.**

**І, менавіта, тады ў БНФ “Адраджэньне” была рэальная магчымасьць мець сваіх дэмакратаў (большасьць) сярод мясцовых дэпутатаў**.
Але трэба разумець, што (на час выбараў) БНФ яшчэ не быў зарэгістраваны, ды і “структуры” БНФ былі вельмі слабыя.

Другім чыннікам (“праблемай”) была знайсці людзей з дэмакратычнымі поглядамі, адпаведна БНФ не знайшоў патрэбнай колькасьці людзей для кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў. І кандыдатамі былі «*вообще демократы*», у большасьці. Але потым , мы пабачылі, што многія “*демократы*”, якіх падтрымаў БНФ, галасавалі, як ім казалі камуністы-начальнікі….

Нават ( час паказаў) у Менскі гарадзкі Савет Дэпутатаў, «ад БНФ» трапілі выпадковыя людзі, прыхільнікі СССР і КПСС.

Вылучалі   дэмакратычных «кандыдатаў» зарэгістраваныя грамадзкія арганізацыі, дзе ў кіруючых ворганах былі сябры БНФ, ці прыхільнікі Адраджэньня Беларусі.

Людзей , на кандыдатаў ад БНФ у Вярхоўны Савет БССР, наш Лідэр назбіраў.

У 1990 годзе я таксама актыўна ўдзельнічаў у агітацыйнай кампаніі выбараў дэпутата   ў Вярхоўны Савет, якога падтрымліваў БНФ. Мы падтрымалі акадэміка Яўгена Канаплю. Непасрэдна я, таксама, вельмі актыўна ўдзельнічаў у ягонай выбарчай кампаніі. Яўген  Канапля -- гэта якраз той прыклад, дзе я і (БНФ ,увогуле) не шкадую, што мы  зрабілі дэпутатам Яўгена  Канаплю. Ён вельмі актыўна “падымаў”  чарнобыльскія праблемы.

Яўген Фёдаравіч Канапля, акадэмік, вучоны , які працаваў (пасля 1986 года)  па

даследваньню вынікаў «Чарнобыльскай катастрофы»..Час сапраўды  паказаў, што Яўген Канапля паслядоўна змагаўся за «чарнобыльскімі

праблемамі».

Трэба адзначыць, што «кандыдатам у дэпутаты ВС» быў таксама сябра КГС «Уручча-1,2,3», журналіст «Народнай газеты», які быў вылучаны

сходам жыхароў ( Уладзімір Самойлаў ).

КГС  "Уручча-1,2,3» вельмі актыўна  дзейнічаў у выбарчай кампаніі.

Але вырашальным чыннікам была наша , «БНФ-я» агітацыя і ,канешне, тое, <u>што мы змаглі растлумачыць грамадзянам праблему «Чарнобыльскай катастрофы»,</u> у якой быў вельмі добра абазнаны акадэмік Яўген Канапля, менавіта , у праблемах здароўя.

У змаганьні за дэпутата ў Менскі гарадскі Савет народных дэпутатаў і Першамайскі Савет народных дэпутатаў таксама КГС быў актыўны.

Ва «Уруччы» мы мелі КГС. Таму была вырашана, што ўсе актывісты

КГС «ідуць у дэпутаты», адпаведна і сябры КГС ( каля 50 чалавек) таксама дапамагалі ў агітацыі. Некалькі сябраў КГС нават не мелі ўвогуле канкурэнтаў у выбарах на дэпутата Першамайскага раённага Савета народных дэпутатаў.

Дэпутатам у Менскі гарадскі Савет народных дэпутатаў быў выбраны журналіст (жыхар Уручча) Расолька, які друкаваў свае прагрэсіўныя артыкулы, а потым , нават, сам заснаваў газэту "Добры вечар".

Ад Навукі я адрывацца не хацеў, але падумаў, што дэпутатам Першамайскага раённага Савету Менску магу быць, вельмі то мне замінаць ня будзе, раён – то не ўся краіна., і нават не ўся сталіца. Я папрасіў сваіх калегаў , у інстытуце АН БССР ( "працоўны калектыў") прапанаваць мяне кандыдатам у дэпутаты Першамайскага раённага Савета народных дэпутатаў горада Мінска . На сходзе лабараторыі Інстытута, дзе кіраўніком (адначасова) быў сакратар партыйнага камітэту КПБ Інстытута, Мікалай Гарбуз , мая кандыдатура была зацверджана бязь праблемаў. Я не ведаю, ці "памяркоўны беларус" -- Мікалай Гарбуз , звяртаўся да "вышэйшых ворганаў" адносна маёй кандыдатуры, ці ведаў ён , што я актывіст БНФ (рэгістрацыі БНФ яшчэ ня была)…. Але, падкрэсліваю, для мяне "праблему " не стварылі. Дырэктар Інстытуту, Алег Стральчонак, таксама не ўплываў на выбар "кандыдата". Дарэчы, потым, ён вельмі часта размаўляў са мной , "народным дэпутатам " на палітычныя тэмы – спрэчак у нас не была.

Першамайскі раённы Савет Народных Дэпутатаў горада Менска, вось такая назва была выбарнага воргана, куды мяне выбралі жыхары мікрараёна «Уручча», што на ўсходзе Менска, за «Маскоўскімі могілкамі», каля «Военного городка», дзе месцілася танкавая дывізія. У Першамайскім р-не , рэальна, была больш за 200 000 (рэальна) чалавек. Большасьць інстытутаў АН БССР і адзінак

«ВПК» (заводы і ўстановы вайскова-прамысловага комплексу) была таксама ў нашым раёне.

У 1990 я быў выбраны дэпутатам Першамайскага раённага Савета народных дэпутатаў горада Мінска ў вельмі цяжкіх , сапраўды, канкурэнтных выбарах. Калі ў іншых выбарчых акругах (нашага мікрараёну) быў толькі адзін «кандыдат», **то мне камуністы выставілі ажно 5-ць, сацыяльнарозных грамадзян, ад рабочага да дырэктара завода**.

Але, я таксама добра папрацаваў пад час выбарчай кампаніі. Я хадзіў па пад'ездах, праводзіў сходы на лесвічных пляцоўках--- людзі ўважліва слухалі. Пытаньняў задавалі мала, больш слухалі. Дапамагаў мне Валеры Паўсьцюк ( сябра БНФ). Трэба адзначыць, што мае выборцы – гэта былыя афіцэры Савецкай Арміі, інтэлігенцыя і «маласемейка», дом з аднапакаёвымі кватэрамі. У «маласемейке», у большасьці, жыў «рабочий класс». Канешне мне

дапамагалі і сябры «КГС, асабліва ў «маласемейке»,дзе жылі былыя «афганцы». Падкрэслю, я ўсюды размаўляў толькі на беларускай мове. Я быў выбраны

адразу, з вялікім адрывам ад членаў КПСС, дырэктара, рабочага. “жэншчыны” і іншых.

Камуністы зразумелі маю «вагу» і мой імпэт, а таму напярэдадні выбараў Старшыні Першамайскага раённага Савета народных дэпутатаў размову са мной папрасіў 2-гі сакратар КПБ-КПСС Першамайскага раёна, Уладзімір Белахвостаў. Ён хацеў ведаць каго ( ці яго) я падтрымаю. У яго быў моцны канкурэнт , Іван Мацкевіч, 1-шы сакратар КПБ-КПСС Першамайскага

раёна. Так,  я размаўляў з Белахвоставым, але я нічога яму не абяцаў і,нават, аніяк не згадаў мае "сімпатыі"…

У Савет была выбрана 65 дэпутатаў. Зразумела***, што большасьць дэпутатаў-- то артадаксальныя камуністы, якія вымушаны былі такі выбраць паміж

«сакратарамі», а таму ад галасоў "дэмакратаў" залежала, ХТО, будзе Старшынёй Першамайскага раённага Савета дэпутатаў. Дэпутатаў ад  КГС  "Уручча-1,2,3» была 10 – гэта таксама істотна.

Свае абяцаньні грамадзянам, жыхарам   "Уручча-1,2,3» я стрымліваў, я быў самым актыўным дэпутатам у Першамайскім раёне. Пад час выбару працы ў дэпутацкай камісіі ў мяне была праблема: мяне "цягнула" працаваць у "Камісіі па экалёгіі", але я зразумеў , што  кантроль па выкананьню Закона ,увогуле, значна важнейшы. Я выбраў працу ў «**Камісіі па захаваньню законнасьці, ахове правоў грамадзян, галоснасьці, вывучэньню грамадзкай думкі**» **.**

Як дэпутат, я актыўна працаваў .

Але  асабліва я спрабаваў зрабіць уплыў «БНФ» (дакладней, працу міліцыі,  выключна згодна з Законам і правамі чалавека)   на супрацоўнікаў міліцыі.

У мяне гэта атрымалася калі пасля дыскрэдытацыі "члена КПБ-КПС, бывшего офицера КГБ" , Старшыні  «Камісіі па

захаваньню законнасьці, ахове правоў грамадзян, галоснасьці, вывучэньню грамадзкай думкі» , пасля НЕКАЛЬКІХ галасаваньняў, я быў зацверджаны Старшынёй **«Камісіі па захаваньню законнасьці, ахове правоў грамадзян, галоснасьці, вывучэньню грамадзкай думкі»**

Пасля 1993г. сярод міліцыянтаў рабілася (некалькі разоў) апытаньне адносна майго аўтарытэту, маёй дэпутацкай працы і ўвагі да міліцыі.. Па словах начальнікаў «РОВД--РУВД» , я меў падтрымку больш за 70% супрацоўнікаў міліцыі. Жыццё паказала, што так і ёсьць: да 2000 года я не меў праблемаў з міліцыяй, як і не мелі праблемаў сябры БНФ у нашым раёне. (Нават потым,з пачаткам дыктатуры і загадаў "зверху", міліцыянты ставіліся да мяне са спачуваньнем) .Адпаведна , у гэтым раёне, я (дэпутат) знайшоў (улады зацьвердзілі) афіцыйнае (2-гоя) памяшканьне для БНФ, на галоўным праспекце Менску.

БНФ, праз маю дзейнасьць дэпутата (і актывіста КГС) набываў аўтарытэт у мікрараёне і нават у раёне Менска, Першамайскага раёна.

## ДЭПУТАТ--"Не для славы – а для Справы"-- Валеры Грыцук

Звычайна людзі баяцца праўды, калі яна невыгодная непрыемная, а часам праўда забівае, палітычна і, нават, фізічна . Дзякуючы выхаваньню праз сваю маму, я вымушаны ўсё жыццё змагацца за Праўду і Справядлівасьць.

Больш таго, я лічу, што Праўда і Справядлівасьць ідуць побач. Але, мне больш падабаецца слова "Ісьціна", бо ,кажуць, што "*правда у каждого своя*".

Менавіта таму, я вырашыў быць і «крыху дэпутатам».Але «крыху не атрымалася. Я актыўна ўдзельнічаў у працы «Камісіі па захаваньню законнасьці, ахове правоў грамадзян, галоснасьці, вывучэньню грамадзкай

думкі», рабіў істотныя прапановы на сесіях Савета .

Напачатку камуністы-дэпутаты спрабавалі з мяне смяяцца, кпіць, выскоквалі дырэктаркі школаў (члены КПСС) і крычалі, што я дрэнна гавару на беларускай мове.Але свае **заўвагі** рабілі на **русском языке.**

З часам з маёй мовай звыкліся, тым болей, што мае прапановы былі

вельмі моцна аргументаваны. . Сярод дэпутатаў Савета , «афіцыйным сябрам БНФ» быў толькі я адзін. Але даволі хутка я змог стварыць пастаянную (кааліцыю) групу дэпутатаў (23 дэпутата), якая падтрымлівала мае прапановы. Як дэпутат, 2 гады, камуністам-дэпутатам, я даказваў, што менавіта мая **асабістая** дзейнасьць у камісіі па "кантролю за міліцыяй" найбольш эфэктыўная .

Падкрэслю, Старшынёй Камісіі (1990-1992) быў былы КГБ-ст, які блакаваў усе мае прапановы, які заблякаваў таксама афіцыйную рэгістрацыю раённай арганізацыі БНФ. Але пасля таго, як гэты «КГБ-ст» чарговы раз

дыскрэдытаваў сябе, дэпутаты- камуністы вымушаны былі такі выбраць мяне старшынёй дэпутацкай «Камісііпа захаваньню законнасьці, ахове правоў грамадзян, галоснасьці, вывучэньню грамадзкай думкі», мяне, ідэялагічнага ворага.

10 гадоў майго змаганьня за Праўду , Справядлівасьць, Закон і Парадак у Першамайскім раёне Менска былі цяжкімі, але паспяховымі, так што ўсё кіраўніцтва раёну мяне паважала і лічылася з маёй думкай., а міліцыя была

талерантная да БНФ на працягу 10 гадоў.

Першай маёй справай змаганьня за Праўду , Спавядлівасьць,Закон і Парадак у Першамайскім раёне была **мая** прапанова стварыць «**стэнд Галоснасьці**»-- іфармацыйны стэнд на вуліцы, дзе былі бы копіі дакументаў Першамайскага раённага Савета Народных Дэпутатаў г.Менска і

выканкама. Амаль 10 год копіі дакументаў мясцовай улады былі на стэндзе і людзі ведалі, ШТО робіць мясцовая ўлада. (Дарэчы і ,нават,зараз, пасля розных “рэканструкцый” ,інфармацыйны стэнд захаваўся.) (ФОТА)

Прашу звярнуць увагу , я першы у Менску прапанаваў «вынесьці інфармацыю - «Гласность» , на вуліцу. І ад чэрвеня 1990 г., 10 год, грамадзяне, на вуліцы , маглі пазнаёміцца , па дакументах, з дзейнасьцю мясцовай улады.

Вось такія акцыя менавіта для таго каб “голас народу” быў пачуты.

У раёне з'явілася некалькі газэтаў, таксама і газэта «Наша Уручча».

Пазней, я быў нават журналістам гэтай газэты (і «па-за штатам»,газеты «Вечерний Минск»).

Я дапамог стварэньню кабельнага тэлебачаньня «ТВ – ИТС», дзе амаль 5 год я быў стваральнікам і вядучым палітычнай праграмы, задарма ,канешне. “Народ”, жыхары маглі задаваць мне пытаньня: быў “прамы тэлефон”.

Але першай “дэпутацкай справай” , на тэрыторыі , быў кантроль крамы ў час змены (вельмі істотнай ) цэнаў. І вось мяне, дэпутата, але бязь ведаў, “што можна, што ня

можна ў краме”, накіравалі на начную працу  (кантроль)  ў маленькую краму. Я там прасядзеў ноч, глядзеў што робяць прадаўцы, знайшоў ,у лядоўні, вядро з белаватым лёдам. Я тады не зразумеў - можа малако. Але потым, успамінаў (навуковец \звычка\ заўсёды ўсё аналізуе) … Я зразумеў, што гэта быў “смыв” ад малочнага кактэйлю, які, паціху, прадавец, дадавала ў малако (разбаўляла).

 Зразумела ,я дапамагаў і канкрэтным людзям. Некалькі прыкладаў.

Я дапамог маці хвораму на «цукровую хваробу» дзіцяці знайсьці патрэбную дапамогу. (Можа я выратаваў яму жыццё ). Іншаму грамадзяніну я дапамог «разабрацца» з міліцыяй. Але ,найбольш цікавая наступная гісторыя.

У доме, на вул.Нікіфарава была памяшканьне для сантэхнікаў ЖЭС, але вечарам і ў начы , там рэальна была «маліна», гвалт і  начныя «оргии» .  Жанчына з малымі дзецьмі, праз сцяну вымушана слухаць вэрхал п'яных кампаній на **працягу 7 гадоў**. Куды толькі яна не пісала скаргі. ... «Маліна» заставалася. І вось , калі я абыходзіў кватэры, паразмаўляў і з гэтай жанчынай: яна распавяла мне пра сваю «бяду». Я, як дэпутат, напісаў адпаведныя лісты.

**Праз 7 (сем) дзён «маліну» закрылі**, памяшканьне для сантэхнікаў перанеслі ў іншы дом. «Бордель» скончыўсвае «канцэрты».

**7 (сем) дзён і 7 гадоў! ----  ” Голас народа” пачуты.**

 Вось гэта гісторыя ёсьць прыкладам чым адрозніваецца эфэктыўны дэпутат ад простага жыхара.

Зразумела, такая мая дзейнасьць на карысьць жыхароў была больш-меньш вядома людзям, адпаведна, я меў

аўтарытэт . На жаль толькі у тых, хто хацеў ведаць ня толькі цэны ў крамах.

Дадаў я да свайго аўтарытэту і змаганьне з несумленным начальнікам ЖЭС, якога, па майму патрабаваньню, звольнілі. Як дэпутат я клапаціўся аб жыхарах мікраараёна «Уручча» і ўсяго раёна. Я заўсёды вельмі ўважліва ставіўся да інфармацыі-скаргаў жыхароў. Так, напрыклад, я атрымаў інфармацыю і вялікае абурэньне жыхароў адносна 3-х "інвенстыцыйных" праектаў ва Уруччы.

"КАЗІНО"

Вядомы бізнесмен, Андрей Клімов, атрымаў дазвол Мінгарвыканкама на будаўніцтва вялікага шматпавярховага дому…. Але, па інфармацыі жыхароў у тым доме будзе таксама "**Казино"**…..

Я сустрэўся з Клімавым.

Ён прывёз мяне ў нейкую школу (будынак СШ) , там, у піяніна , ён трымаў дакументы адносна пабудовы дома. Я паглядзеў дакументы, спытаў наконт "казіно"…. Клімаў ня смог мне дакладна адказаць: будзе , ці не будзе "казіно". Пасля сустрэчы з бізнесменам, я паведаміў выканкам Першамайскага раёну, што я,дэпутат, і намесьнік кіраўніка КГС "Уручча-1,2,3» супраць будаўніцтва "дома Клімава".

(Клімов дом ва Уруччы не пабудаваў).

РЭСТАРАНЧЫК

Наступнае. Нейкі армянін "дамовіўся" з выканкамам аб адкрыцці "рэстаранчыка" ва Уруччы. Я заблакаваў "цэнтр" армянскай мафіі.

Агульна вядома, што там дзе з'яўляюцца нейкія камерцыйныя ўстановы "каўказцаў" – там абавязкова

ствараецца “цэнтр” сустрэчаў каўказцаў, які часта ператвараецца ў мафійны цэнтр.

“АЛКОГОЛЬ - (круглые сутки)”

Наступны “бізнесмен” хацеў адкрыць краму па продажу алкаголю ,ва Уруччы-2. Ён нават “дамовіўся” з жыхарамі акаляючых ( планаванага месца) дамоў, пасадзіў каля дамоў 7 дрэваў….

Але КГС "Уručча-1,2,3» і я,усе дэпутаты ад Уручча, былі катэгарычна супраць.

Акагольная крама засталася толькі ў галаве таго бізнесмена.

Хто ён --- я не ведаю, таму што не сустракаўся з ім.

Былі іншыя справы на карысьць жыхароў.

Па прапанове жыхароў ,але праз маю дзейнасьць, была адкрыта прамтаварная крама, **захавана** ( была рашэньне аб ліквідацыі) крама па продажу гародніны (для пенсіянераў).

Мы, дэпутаты ад Уручча вельмі пільня сачылі за працай кожнай крамы ў мікрараёне. Я асабіста, неаднаразова, размаўляў з дырэктарам крамы.

Доўгі час працаваў «Пункт дозимитрического контроля продуктов» у мікраараёне «Уручча», дзе і я, непасрэдна, правяраў прадукты «на радыяцыю». Гэтую маю прапанову падтрымаў акадэмік Яўген Канапля,

забяспечыў абсталяваньнем.

**Справы “дэпутата  Валерыя Грыцука”**

**для жыхароў “Уручча”**

1) Стварэньне першага ў Менску  бязьплатнага “Пункту дазіметрычнага кантролю прадуктаў”  для праверкі прадуктаў
2) Арганізацыя праверак  крамаў (гандлю) і патрабаваньня справядлівага размеркаваньня  фондаў у раёне ( і для “Уручча”) – 1990-1993 гг.
3) Запатрабаваў звольніць з пасады начальніка ЖЭС (Карасёва ) – звольнены
4) Запатрабаваў (і зроблена)  адкрыццё дзіцячага аддзелу ў паліклініцы для дарослых.; паскорыць будаўніцтва дзіцячай паліклініцы ( зроблена).

5)  Запатрабаваў (і зроблена)  адкрыццё дзіцячага аддзелу, прамысловых тавараў, у мясцовай краме,  у “дэфіцытным” 1990 годзе.
6)  Адкрыццё  2-га аддзелу “Сберегательного банка” ва “Уруччы-2”
7) Створаны праект паркавай  зоны
8) Створаны аддзел раённай “СЭС” ва  “Уруччы”

9) Запатрабаваў (і зроблена) аб запланаваньні і **адкрыццё** прамтаварнай крамы (адзіная ва“Уруччы”)
10) Удзельнічаў у планаваньні і адкрыцця “мінібазару”

11) Сумесна з іншымі дэпутатамі ад “Уручча” дамогся лепшага забеспячэньня  транспартам жыхароў  мікрараёна

12) Выратаваў працаўнікоў пошты (можа  ад сьмерці), але ад калецтваў, дакладна.  СССР-я будаўнікі часта будавалі не якасна. Дык вось , працаўнікі пошты (Уручча) звярнуліся да мяне з пытаньнем адносна рамонту

будынку.Па сценах будынку “пайшлі” істотныя трэшчыны …. А кіраўніцтва пошты г.Менску “запланавала” рамонт будынку пошты ва Уруччы толькі праз 12 месяцаў ….
Але…Пасля маёй сустрэчы са Старшынёй Менскага гарвыканкама (Ермошыным)…. Рамонт будынку пошты зрабілі вельмі хутка.

Для жыхароў Першамайскага раёну ( і ня толькі) дамогся спыніць масавае звальненьне рабочых на прадпрыемствах раёна у 1992-1993 гг.

ГОЛАС НАРОДА ПАЧУТЫ --- зроблена.

Была і шмат іншых спраў, кансультацый грамадзянам па іхнім прыватным справам, часта , на вуліцы, бо мяне ведалі, таму і пыталі.

Ведалі мяне і рабочыя заводаў Першамайскага раёну.

Так, на запрашэньне прафсаюзных актывістаў Менскага гадзіннікавага завада, я выступіў на «сходзе акцыянераў», дзе растлумачыў працаўнікам, што

павінна рабіць кіраўніцтва Заводу і , якая ёсьць роля акцыянераў. Я таксама абверг некаторыя падманныя «закіды» дырэктара Заводу.

Ну і, канешне, я , дэпутат і Старшыня **«Камісіі па захаваньню законнасьці, ахове правоў грамадзян, галоснасьці, вывучэньню грамадзкай думкі»**

пастаянна, бываў на сустрэчах з работнікамі міліцыі, я тлумачыў **ім сутнасьць Закону і розніцу Арміі і міліцыі, адпаведна, тое, што** супрацоўнік міліцыі не павінен выконваць незаконны загад Начальніка, а павінен **карыстацца толькі Законам**.

Зрабіў, менавіта, я "акцэнт", што міліцыя – гэта НЕ армія і, супрацоўнік міліцыя не павінен "*безпрекословно*" выконваць загад Начальніка.

Я , лічу, што і дзякуючы мне, міліцыя Першамайскага р-на ў 1990-1995 гадох працавала дастаткова эфэктыўна і не парушала (істотна) правы чалавека. Грамадзяне мне не скардзіліся на міліцыю ( была толькі адна скарга)

## Карупцыя

Калі я атрымаў ад грамадзян інфармацыю аб карупцыі ( узяў незаконна сабе яшчэ адну кватэру) намесьніка Старшыні ( Аляксандр Новік) выканкама , то я агучыў гэта на сесіі Савета дэпутатаў. Намесьнік мне пагражаў судом. На жаль, грамадзяне не перадалі мне больш дакладнай інфармацыі, а таму я не змог звярнуцца ў пракуратуру па гэтай справе.

…………………………………………………………

Але , потым, я даведаўся, для большасьці жыхароў мая праца на іх карысць была мала вядома. Так, " дэпутат раёна" не меў магчымасьці выступу на мясцовым тэлебачаньні, на мясцовым радыё -- ня была такога. Мясцовая, наша газета з'вілася значна пазней… Трэба падкрэсліць, што я , дэпутат, не меў аніякіх ільготаў ( акрамя праезду), ці "зарплату". Уся мая праца была выключна гуманітарная і змаганьне за Спавядлівасьць і аднолькавы Закон для ўсіх.

Такім чынам, можна зразумець,што мая дзейнасьць была вельмі эфектыўная.

Але маё крэда: НЕ ДЛЯ СЛАВЫ -- а ДЛЯ СПРАВЫ.

Была яшчэ адна важная справа ,фактычна, таксама для “народу”. Калі “ППБ” пачаў прызначаць (фактычна) кіраўнікоў “выканкамаў”, і  калі я даведаўся, якія кандыдатуры мае Старшыня Менскага гарвыканкама…..
Я вырашыў дзейнічаць. Была дзве кандыдатуры: карупцыянер Новиков і Іван Мацкевіч.

Я пайшоў на сустрэчу са Старшынёй Менскага гарвыканкама і сказаў, што я катэгарычна супраць карупцыянера Новикова.  Зразумела , што і  ў “гарвыканкаме” ведалі маю “сілу”.  У выніку , Старшыня Менскага гарвыканкама прапанаваў дэпутатам Першамайскага раённага Савета народных дэпутатаў падтрымаць кандыдатуру  толькі Івана Мацкевіча, так ён быў зацверджаны на пасаду Старшыні  выканкаму Першамайскага раёну. (дзякуючы мне, пра што ён не ведаў) Значна пазней, я ,асабіста,сказаў яму, што ягоная пасада – гэта мая “работа”.

<u>Выбары 1994 -1995</u>

Мая агульная дэпутацкая актыўнасьць дапамагла  і БНФ ў прэзыдэнскіх выбарах 1994 года.

Менавіта, мой аўтарытэт актыўнага дэпутата таму , дапамог мне  арганізаваць

пераможныя выбары (1994) для кандыдата ад БНФ у Першамайскім раёне.

Гэта была АДЗІНАЯ выбарчая акруга, дзе дзякуючы менавіта  АКТЫЎНАЙ  працы сябра БНФ (<u>маёй працы</u>) Прэзыдэнтам Беларусі быў абраны апазыцыянер – лідэр БНФ “Адраджэньне”, (ЗП). ( у адной акрузе – уручанскай).

Але Прэзыдэнтам РБ  для **Беларусі**   быў абраны камуніст, дырэктар саўгаса, які як клешч учапіўся за ўладу; стварыў

дыктатуру і знішчае  ўсё беларускае (згодна з планам Масквы).

Мікраараёнам Уручча дэмакраты  назвалі "БНФ-м" ,што была памылкай, якую не зразумелі актывісты БНФ. Так ,Сяргей Наумчык захацеў быць дэпутатам у Вярхоўным Савеце  ад Уручча (1995 год)…. і вельмі ганебна прайграў нежыхару Уручча, камуністу, зусім невядомаму чалавеку. Чаму?  А  таму, што на падступнасьць (подлость-рус.), Сяргея Наумчыка  я адказаў байкотам выбараў. (СН падгаварыў З.Пазьняка **забараніць мне быць "кандыдатам**" !)

## 1995 Мова , рэфэрэндум і выбары ў ВС

Рэфэрэндум, выбары у ВС я падрабязна апісаў у першай кнізе "МАЁ ЗМАГАНЬНЕ", але крыху напаміну.

Дык вось, адносна ганебнага рэферэндума  1995. І зноў, Пазьняк ( і ягоныя дэпутаты) не зразумеў сітуацыю, ён пераконваў нас, мясцовых лідэраў, што  "***возьмем мандаты ў ВС і вырашым праблему рэферэндума."***  .

 Адпаведна, аніякай агітацыі супраць рэферэндума БНФ не праводзіў.

Але я намаляваў вялікі плякат супраць "Рэфэрэндума" і спрабаваў павесіць яго на будынку школы – месцы выбарчай камісіі. Міліцыя мяне затрымала, але я быў дэпутатам, таму мяне не судзілі.

____Выбары у Вярхоўны Савет – БНФ. 1995

Тады адбылася вельмі прыкрая для мяне сітуацыя і ,відавочна, абсалютная амаральнасьць Сяргея Навумчыка ,

разам з Зянонам Пазьняком. Чаму ? Бо ёсьць Факт! Сяргей Навумчык , разам з Зянонам Пазьняком, **прымусілі мяне адмовіцца ад жаданьня быць дэпутам ВС, і нават, ад ЖАДАНЬНЯ быць нават кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета РБ бязь дапамогі БНФ!**

Чаму віцебскі Навумчык «возник» у менскім Урыччы???

Навумчык пабачыў тут ( УРУЧЧА) "БНФ-скі электарат"(пасля пераможных выбараў для кандыдата ад БНФ у 1994 на пасаду Прэзыдэнта РБ) і , ён ўгаварыў Пазьняка паставіць кандыдатам ад Уручча яго, Сяргея Навумчыка (сакратара ЗП) .Вынік: Навумчык прайграў нават невядомаму камуністу з прозвішчам Козлов. І гэта праз 12 месяцэў (1995) пасля «пераможнага Пазьняка», у тым жа "Уруччы" !

***Чаму чалавек……***

У гэтай кнізе я хачу зрабіць акцэнт на псіхялёгію. (апошнім часам я вельмі цікавіўся псіхялёгіяй. Ведаеце пра ўздым папулізму на Захадзе ?).

Я зрабіў самааналіз:

*Перадусім , чаму я так лёгка згадзіўся на агрэсіўная ПАТРАБАВАНЬНЕ З.Пазьняка "не быць кандыдатам у ВС" ?*

Вось мае высновы:

1)Хто Я ? Я – беларус, адпаведна, таксама маю "***ген раба***", што прымушае мяне падпарадкоўвацца "*слову Начальніка*".

(я змагаюся з гэтым “генам”. Але..)

2) **Усе беларусы маюць “ген раба”,** але НЕ ўсе змагаюцца з ягоным уплывам, ці змагаюцца ў рознай ступені. Так ,напрыклад, дэлегаты “выбарчага З’езду БНФ (не была нават АДНАГО такога дэлегата) --- дэлегаты **НЕ** ЗАПЫТАЛІ З.Пазьняка: “ *ЧАМУ ён ПАТРАБУЕ адмовы ад Валерыя Грыцука ад кандыдатства і, ЯК ГЭТА выглядае адносна ДЭМАКРАТЫІ* ? “

3) Я – чалавек “каманды” (заўсёды).

Калі мая “супольнасьць” вырашыла мець нейкі “накірунак” , то я адкідваю мае пачуцця, сімпатыі. Агульная справа ёсьць важнейшая за асабістыя амбіцыі і жаданьні. З гэтай жа прычыны, я не пайшоў на “трыбуну” З’езду і не растлумачыў сітуацыю. (Так ,як у 2005г. я не быў задаволены выбарам на “Адзінага Кандыдата на Прэзыдэнта РБ”, але я зрабіў яму “дарогу ў Europe” )

4) Я –навуковы супрацоўнік, кіраўнік важных навуковых даследваньняў звязаных з вынікамі “Чарнобыльскай катастрофы”. І я (яшчэ тады, у 1995-м) марыў быць Вучоным. А быць дэпутатам ВС – гэта канец маім навуковым даследваньням.

Але я пераканааны, што я быў бы выбраны дэпутатам ВС. Чаму?

А/ Я ужо за 3-ы дні сабраў 300 подпісаў на вылучэньне мяне “Кандыдатам” (патрэбна 500) – гэтага спалохаліся ЗП і Наумчык.

Б\ Мясцовая ўлада ( у ціхую) падтрымлівала мяне. (нават у 2000г. мне прапанавалі з выканкама падтрымку для выбараў у “палатку”)

Супрацоўнікі выканкама Першамайскага раёну паважалі

мяне (акрамя працаўнікоў- этнічна русских)

В) Я пераканаы , што дэпутат ВС Рэспублікі Беларусь Валеры Грыцук абавязкова змусіў бы Канстытуцыйны Суд РБ ухваліць "імпічмент" у 1996г.

(Для скептыкаў: я за "справу" змагаюся да канчатковага выніку заўсёды; у КС РБ я , асабіста, быў знаёмы з некаторымі суддзямі;я ужо паказаў (1994г.) , што я магу быць **паспяховым** PR-менеджэрам \ яшчэ прыклады апісаны ў кнізе "МАЁ ЗМАГАНЬНЕ" II 2014\; я знішчыў бы апатыю сярод сяброў БНФ, якая панавала пасля 1995 года.)

Але для БНФ "Адраджэньне" 1995 год – гэта самая сумная ў гэтай гісторыі, асабліва пасля паразы немагчымасьці Рэфэрэндуму БНФ у 1992 г. Вельмі шкада: НІХТО з "БНФ-цаў" не зрабіў высновы пасля татальнай паразы БНФ на выбарах у ВС **1995 г**. (і 1992 года)

На чарговым З'ездзе БНФ,1995г. \жнівень\ ніхто не гаварыў пра "вынікі" выбараў, а мне ,<u>фактычна</u>, не далі выступіць. По прапанова камуніста Валяціна Голубева (пры маўклівай згодзе "авечак" –дэлегатаў) "3-ы мінуты" для выступа кандыдата на пасаду Старшыні БНФ --- гэта ганьба для БНФ, для таой "дэмакратыі".

Асабліва, я вельмі засмучаны тым, што НІХТО з уручанскай суполкі БНФ (потым) не папрасіў у мяне прабачэньня за тое, што свой розум яны затлумілі эмоцыямі і падпарадкаваліся "***гену раба***" --- не падтрымалі мяне. Вынік: яны прайгралі, прайграла БНФ. І гэта – "дэмакраты", а некаторыя з іх -- "*веруючыя хрысціяне*".

**Выбары ў Менскі Гарадзкі Савет Дэпутатаў .**

Тады ж (1995 год) адбываліся і выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў.Я вырашыў удзельнічаць у гэтых выбарах бязь БНФ. Мая ініцыятыўная група была створана з жыхароў мікрараёну і хутка сабрала мне неабходныя подпісы для рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты Менскага Гарадзкога Савета Дэпутатаў. Слова «народный» ужо тады зьнялі.

Але .У той час мая маці вельмі хварэла і, яна запатрабавала вельмі настойліва (пад час гарачай выбарчай кампаніі) каб я прыехаў у Кобрынь. Адпаведна я не мог праводзіць выбарчую кампанію ў гарСавет…. То бок, я паставіў “**капрыз”** маёй маці (у Кобрыні, я пабачыў, што маці не вельмі хворая./Маці памерла ў 2005 г.\) вышэй грамадзкага інтэрэсу .

Але напрыканцы агітацыйнай кампаніі я зрабіў «эксперымент». Я зрабіў улётку супраць небяспечнага канкурэнта, кандыдата ў Менскі гарсавет, **Начальніка** «ЖЭС». З дапамогай сябра, **Міколы Ясенка**, улёткі былі распаўсюджаны на тэрыторыі таго «ЖЭС».(Эфэкт быў 100%). Больш улётак я не распаўсюджваў --- ужо не было часу. Але <u>многія</u> ( на жаль , далёка не ўсе) жыхары «Уручча» ведалі маю дзейнасьць на іх карысць. Я тады мог быць абраны ( я перамог – па «галасам» ) ў Менскі гарадзкі Савет…..

Па «галасам» выборцаў ( больш 50%) я перамог усіх астатніх кандыдатаў у дэпутаты Менскага Гарадзкога Савета Дэпутатаў горада Менска.

!!! **Але** мая перамога <u>была бы</u> ( **калі б** «выбары **<u>адбыліся»</u>)** адначасова з перамогай артадаксальнага камуніста ( у ВС), прыхільніка дыктатара Лукашенко.

Я не  захацеў каб мае жыхары , майго Першамайскага раёну мелі дэпутата -камуніста. Выбарчая акруга “гарадзкога дэпутата” уваходзіла ў акругу “дэпутата ВС”.

Члены адной выбарчай камісіі добра мяне ведалі і, яны  прапанавалі мне дапамогу ў «збіраньні галасоў***» -- хадзіць па кватэрах ,за пару бутэлек шампанскага.
Я  адразу адмовіўся ад прапановы выбарчай Камісіі . Можа і дарэмна.... (Зараз,я шкадую) Бо Камісія прапанавала не фальсіфікаваць «галасы» , не агітаваць,  а толькі пахадзіць са «скрыняй» па кватэрах і сабраць гэтыя 300 , неабходных , галасоў, каб была 50 % ЯЎКА грамадзян на выбары!  (Тады яшчэ была  дурацкая завядзёнка , што  прагаласаваць павінны абавязкова больш за 50 % грамадзянаў ,якія ёсьць у “Спісе “). ….

Потым ( і зараз) я падумаў, што празмерная “прынцыповасьць” (калі гэта нікому не шкодзіць) не патрэбная.

***-- Падкрэслю. Мне галасоў хапала, за мяне “галасы” дадатковыя збіраць ня трэба была, але каб выбары “АДБЫЛІСЯ”, патрэбна тыя 50%.

Яшчэ адзін момант. Я не ведаю, ці то прапанова Пазьняка, ці ягоных сектантаў (памёр чалавек, таму не назаву прозвішча), але мяне БНФ не вылучыў , нават, кандыдатам у дэпутаты Менскага Гарадзкога Савета Дэпутатаў. БОЛЬШ таго, ад БНФ, быў вылучаны мне канкурэнт, сябра маёй суполкі !!! Я размаўляў з ім – прапанаваў  «зняць» яму сваю кандыдатуру, бо шансаў быць дэпутатам у яго  абсалютна не была. Але ён адмовіўся і **не растлумачыў** мне чаму ня хоча гэта рабіць. Я ж яму сказаў, што ў яго шанец быць дэпутатам «нулявы». Вынік. За яго кандыдатуру прагаласавала 9% выборцаў.
Я думаю, што калі б ня была «БНФ-скага» кандыдата ў Менскі гарСавет, а , наадварот, была бы дапамога мне,

то на выбары прыйшло бы больш людзей і, выбары адбыліся бы. (Некаторыя памятаюць, што тады \1995\ Лукашенко сказаў:”Я на выбары не пайду”. І ў СМІ была вельмі моцная кампанія супраць БНФ.)

“***ЛИКВИДАЦИЯ”*** **– чарговае злачынства “Президента»**

У 1995 г. колхозны Прэзыдэнт прыняў “**Указ Прэзыдэнта РБ ад 13.09.1995г**. **<u>аб ліквідацыі раённых, у гарадах, Саветаў дэпутатаў”,</u>**

“народны”прэзыдэнт РБ падпісаў **<u>антыканстытуцыйны акт</u>** аб скасаваньні раённых Саветаў Дэпутатаў у гарадах.

Я , зразумела, як дэпутат і сябра-заснавальнік Фонда ім.Льва Сапегі, быў катэгарычна супраць такога **<u>антыканстытуцыйнага актy.</u>**

Напярэдадні , я напісаў адпаведныя артыкулы, НАДРУКАВАНЫ: ў газеты «Звязда», «Советская Белоруссия», «Народная газета».Артыкулы былі надрукаваны - на што я не вельмі спадзяваўся.

Я прысутнічаў на пасяджэньні Канстытуцыйнага Суду, дзе разглядаўся гэты

**<u>антыканстытуцыйны “Указ Президента»</u>**.

На жаль, дэпутаты ВС, фактычна,падтрымалі Лукашенко. На тым судзе прысутнічаў толькі дэпутат-камуніст Валерый Шчукін.

**Канстытуцыйны Суд** «адмяніў»(палічыў , што Указ супярэчыць Канстытуцыі) Указ Прэзыдэнта Александра Лукашенко, (Пастанова 11.12.1995)

Адпаведна, ВС **вымушаны** быў пацьвердзіць норму Канстытуцыю і Закона.

(Пастанова ВС РБ 22.02.1996) і патрабаваць ВЫБАРЫ новых складаў раённых Саветаў дэпутатаў у гарадах.( якія ніколі не адбыліся, ВС-1995 і ВС-1996 “забыліся” на гэтую “праблему”)

Я напісаў Заяву у Пракуратуру Першамайскага раёну. Але , ужо дзейнічаў **не** Закон, а “Слово Президента».

Прашу звярнуць ўвагу на гэтаю інфармацыю і параўнаць з адказам на мой Ліст, «и.о. Председателя ---Голобурды» у 2000 годзе.(падрабязней, у маёй кнізе “МАЁ ЗМАГАНЬНЕ”)

**Фактычна пачала сваю дзейнасьць новая формула ўлады:**

**«*Право Силы, а не сила Права*», пры МАЎКЛІВАЙ ЗГОДЗЕ “*народа*”**

Выканаўчыя структуры ( дзе працавалі былыя члены КПСС) дзяржавы глядзелі толькі на Указы Прэзыдэнта Александра Лукашенко, а не на Закон,  на Канстытуцыю..

Я спрабаваў змагацца , патрабаваў скліканьне Сесіі Савета дэпутатаў , пісаў у органы Пракуратуры.... Але ўсё марна --- усюды працавалі былыя члены КПСС, яны падпарадкаваліся ,цалкам, новаму «1-му Секретарю КПБ-КПСС», толькі зараз ён называўся «Президент Александр Лукашенко».

Але я збіраў сваю дэпутацкую «**Камісію па захаваньню законнасьці, ахове правоў грамадзян, галоснасьці, вывучэньню грамадзкай думк**і» ў будынку выканкама яшчэ 3 гады. Мы рабілі прапановы для выканкама.

Нашые прапановы (Камісіі) выканкамам не прымаліся да разгляду, але прысутнічаць на пасяджэньні Выканкама мне дазвалялі (бо мяне,асабіста, паважаў Старшыня выканкаму.)

Надалей, я пісаў, лісты ў дзяржаўныя органы і падпісваўся ***«дэпутат»,*** «Старшыня дэпутацкай «Камісіі па захаваньню законнасьці, ахове

правоў грамадзян, галоснасьці, вывучэньню грамадзкай думкі» ..».

Я атрымліваў адказы і, нават, некаторыя мае прапановы , адносна дзейнасьці Першамайскага суда , міліцыі, прымаліся да разгляду і, нешта, рабілася па

маім прапановам ажно да 2000г. Так, я дапамог (крыху) у матэрыяльным забяспячэньні Першамайскага суда ( напісаў Ліст у Міністэрства юстыцыі).

Маім ( можа і ня толькі маім) поспехам была і тое, што

пасля майго звароту ў МУС, міліцыянтаў не пазбавілі дадатковай дзяржаўнай падтрымкі,  крыху дапамог міліцыянту ў справе праблемаў з інтэрнатам….

Але я таксама звяртаў увагу МУС на неадпаведнасьць закону ў афармленьні міліцэйскіх дакументаў, «пасведчаньняў».

Я вельмі ўдзячны капітану міліцыі, сябру нашай Камісіі, Віктару Праўдзіну, які заўсёды падтрымліваў мяне. Бацька ягоны, рускі чалавек, з архангельскай

зямлі ( «крепкий мужик») .Маці -- беларуска, а таму Віктар добра валодаў беларускай мовай. Пазней ён стаў беларускім пісьменьнікам.

У **2000 годзе** я атрымаў апошні афіцыйны ліст, як да , фактычна, ДЭПУТАТА, ліст ад дзяржаўнага органа , пракуратуры г.Менска, дзе да мяне звярталіся

як да « Старшыні Камісіі... ».

З другога боку ,насельніцтва, аніяк не пратэставала--яно была моцна атручана абяцанкамі – хлуснёй кандыдата, а потым Прэзыдэнта, які ім «**всё даст**».

Ну вось зараз, пасля 26 гадоў "народнага, пасля 24 гадоў дыктатуры "народ" пачаў думаць: ***"дык ён жа не даў тое ,ШТО абяцаў***. Дзе па "500" і іншае".Нарэшце "народ" прачнуўся (2020 год) ,але яшчэ не ўстаў з каленяў.

Але тады , яшчэ, нават, у Менску, большасьць жыхароў спадзявалася , што так і будзе –"*усё Ён дасьць ….*"

Менавіта таму, пад час усіх выбараў дэпутатаў гучалі гэтыя ідыёцкія словы, адпаведна, пытаньне да мяне кандыдата ў дэпутаты Менскага гарадзкога Савета дэпутатаў: *«Что ты мне дашь ?»*

Гэтыя словы ад электарату я чуў не аднойчы, калі ў чарговы раз кандыдатаваў на дэпутата…

Але я ані разу не чуў, каб нехта запытаў :"А што ты зробіш для горада, раёна, вобласьці, краіны Беларусі?".І гэта ў Менску,(мікрараён Уручча)

Так, некаторыя "разумнікі" ( з адукацыяй") пыталі аб "праграме", што была вельмі і вельмі рэдка.

А што такое “праграма” апазыцыйнага палітыка, які мае заўсёды меньшасьць галасоў у выбарчых органах ? Так, у мяне былі праграмы і потым, я нават дамагаўся каб нешта ўключалася ў Плян развіцця Раёна. Напрыклад, пабудова Парка ў мікрараёне «Уручча-2» і г.д. Але бязь «маёй улады» гэта так і засталося толькі на паперы.

Калі коратка акрэсліць **маю дэпутацкую дзейнасьць, то гэта была дзейнасьць на карысць «галоснасьці» (інфармацыя), дэмакратызацыя, тэрытарыяльнага самакіраваньня, кантролю над міліцыяй, захаваньня Правоў Чалавека**.

Таксама дзякуючы мне, на працягу амаль сямі гадоў ( 1993- 2000гг.) Выканкам Першамайскага раёну перыядычна разглядаў «пытаньне» , выкананьня Закона

аб мовах, то бок «беларусізацыя» раёна .

Дарэчы, зараз многа сучасных маладых дэмакратаў-беларусаў менавіта з Першамайскага раёну.

Падкрэслю. <u>Мясцовым дэпутатам не плацілі за дэпутацкую дзейнасьць</u>.

## Інфармацыйная дзейнасьць для краіны.

Я даволі часта выступаў ( як дэпутат мясцовага Савета) , адпавядаў на пытаньня адносна мясцовых праблемаў і мае прапановы як іх вырашаць, на дзяржаўным радыё. Мне давалі «этэр» на «Беларуская маладзёвая» (кіраўнік -Жанна Літвіна) і радыё «Сталіца» ажно да 1999 года, уключна.. Вельмі цікава, што кіраўніком радыё «Сталіца» быў стары артадаксальны камуніст, але ён чамусьці прыхільны ставіўся да мяне, БНФ-ца, які рэальна працаваў для “народа”.

Менавіта я, Валеры Грыцук, напісаў першы грунтоўны артыкул аб сістэме мясцовай улады, мясцовых дэпутатаў у новым часопісе “БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА”.(глядзіце мой адказ на фальсіфікацыі сучаснага “БД”. ( Артыкулы)

Найбольш папулярным ( і значным) быў мой артыкул у незалежнай раённай газэты «Наша Уручча» адносна «законнай карупцыі» мясцовага начальства.

Спадар Долгалёв, кіраўнік,КНК дазволіў мне пазнаёміцца з дакументамі. Мясцовае начальства выкарыстала сакрэтную Пастанову Савета Міністраў

(В.Кебіча) аб танных крэдытах. Зразумела, што гэтую пастанову ведалі толькі наменклятуршчыкі, якія «хапнулі» грошы, пабудавалі катэджы, а потым за свой

**месячны** заробак «погасили кредит», бо пачалася гіперінфляцыя.

Некалькі разоў ( як дэпутат) я выступаў у школах. Лічу важным маю размову з клясай (па прапанове Валеры Паўсьцюка) дзе вучыліся актывісты расійскага РНЕ- антыбеларускай шавіністычнай арганізацыі (і іх кіраўнік, малады Самойлов). Я думаю, што мой выступ адхіліў многіх дзяцей (бацькі іх --этнічна рускія, вайскоўцы) ад гэтай рускай шавіністычнай заразы.

Зразумела, што была вельмі важная мая абсалютна бязьплатная праца на кабельным тэлебачаньні “ТВ-ИТС» (падрабязна ў маёй кнізе “МАЁ ЗМАГАНЬНЕ”)

**Інфармацыйная дзейнасьць для краіны -- ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА.**

Пасля таго, як я прыпыніў сваю дзейнасьць у БНФ, як пратэст супраць дыктатуры З.Пазьняка і маўчаньня “авечак” – сябраў БНФ . …Перадусім мяне вельмі абразілі дэлегаты Зэезду БНФ (1995), якія маўкліва пагадзіліся ,

на фактычную забарону  мне нармальна выступіць, зрабіць аналіз працы кіраўніцтва  БНФ.

Дарэчы ніхто  НЕ зрабіў такі аналіз!  Рабы падтрымалі недзеяздольнага “Начальнка” (ЗП).

Я пачаў думаць: чаму БНФ-цы  рабы?

Я зразумеў: яны не ведаюць ШТО ГЭТА такое  ***Правы Чалавека***. (Дарэчы, ЗП вельмі не любіў гаварыць аб правах чалавека.)

Вось таму, я пачаў рыхтавацца да стварэньня спецыяльнай арганізацыі для навучэньня  жыхароў Беларусі Правам Чалавека.  Я разглядаў розныя варыянты: ад “Хельсінскага Камітэту, да  Amnesty International; шукаў людзей ( не са складу БНФ) якія могуць падтрымаць такую працу.

Я ўжо меў (на працы) магчымасьць заглядаць у Інтэрнэт. Пасля грунтоўнага аналізу, размоваў з настаўнікамі, гісторыкамі…  Я вырашыў стварыць грамадзкую арганізацыю “Адукацыйны Цэнтр “Правы Чалавека”. Цэнтр быў створаны. Падрабязней у кнізе “МАЁ ЗМАГАНЬНЕ”( 2013г.)

Ад імя гэтай Арганізацыі , як   Старшыня, я многія гады рабіў выступы на міжнародных канфэрэнцыях. Тут ёсьць тэкст аднаго  майго выступу. (глядзіце ў  “Дакументы”) Але, толькі на канфэрэнцыях  і семінарах АБСЕ (www.osce.org) я зрабіў больш за **45-ці выступаў** ( шукаю спонсара ,каб выдаць усе выступы). На такіх канфэрэнцыях прысутнічаюць урадавыя дэлегацыі 57 –мі дзяржаваў: Эўропа, ЗША і Канада.  (гл.osce.org)

Даваў я “Інфармацыю”, праз лісты, і ўрадам іншых дзяржаваў. (прыклад ёсьць на маім “facebook”)

**<u>Выснова для дэмакратаў.</u>**

Калі больш агульна, то можна засведчыць так.

Менавіта дзякуючы мне, Першамайскі р-н быў самым прыхільны для дэмакратаў ( з боку міліцыі таксама) ажно да 2001г. (Выбары Президента РБ) . Падкрэсліваю, менавіта дзякуючы мне, АДНАМУ актыўнаму дэпутату , арганізацыя БНФ атрымала другое афіцыйнае памяшканьне, на галоўным праспекце Менска.

За часы дэпутацтва і грамадзкай дзейнасьці я засвоіў таксама і наступнае.

<u>Усе разумныя праграмы</u> ( эфэктыўныя) даўно напісаны і рэалізаваны ў Эўропе, перадусім, для мясцовай улады. (Фонд імя Льва Сапегі паказаў гэта сваімі публікацыямі)

Таксама дастаткова ёсьць праграмаў (варыянтаў) развіцця(трансфармацыі) агульна, для краіны. А перашкаджае «эфэкту» вельмі часта карупцыя , адсутнасьць транспарентнасьці (прарызрасьці дзеяньняў улады) у розных формах. І зараз, у часы "глябалізацыі" бязь уніфікацыі якаснай прадукцыі і добрага сэрвісу, канкурэнтную барацьбу не выйграць. Зразумела прадукцыя павінна быць на сучасных тэхналёгіях.

Больш таго, непасрэдна грамадзяне павінны дапамагаць рэалізаваць "Праграмы" ,а не чакаць ад дзяржавы, палітыкаў наступнай выгоды, грошаў., і «*Што ты мне дашь?».* То бок, павінна быць **адказнасць** грамадзяніна за сваю дзяржаву.

Нехта гаворыць аб ментальнасьці, мясцовай спецыфічнасьці – усе гэта глупства. Хочаш сядзець у сваей ментальнай "зямлянцы"- ну то сядзі і гавары так і, паспрабуй са сваёй "спецыфікай" быць багатым.

Глябалізацыя (і сучасныя тэхнялёгіі ) ўсё імклівей

«набірае ход», адбываецца дыфузія ўсяго, то бок, узаемапранікненьне, што вядзе да змяншэньня і нават

знішчэньня нацыянальных і этнічных адметнасцей, нават геапалітычных асаблівасцей. Адпаведна мяняецца ментальнасьць людзей, можа і не ў найлепшы бок, але гэты працэс ідзе хутка.

Мае развагі адносна грамадзскіх працэсаў дапамаглі мне вынайсці новы **Закон грамадзкіх працэсаў**, ***хуткасьць якіх залежыць ад хуткасьці абмену інфармацыі.***

Адпаведна, я мяркую, што сёння, напрыклад, тое, што добра для шведа, фіна, немца – будзе добра і для беларуса.

Такім чынам можна цалкам імплэментаваць усю заканадаўчую сістэму Швецыі ў Беларусь! (акрамя караля)

'

## ПАМЯТАЕМ ЗАПАВЕТЫ СЛАВУТЫХ БЕЛАРУСАЎ

**Антон Луцкевіч:**

***“Нацыянальную сьвядомасьць нельга аддзяліць ад сьвядомасьці правоў чалавека і грамадзяніна: яны гэтак цесна зьвязаны ў адно, што, калі будзіцца адна, яна неадступна будзіць і другую, — а ў той жа час, дзе няма сьвядомасьці нацыянальнай, там няма месца і для чалавечай гордасьці.***
***Гэта асабліва яскрава выявілася ў беларусаў.”***

**Леў Сапега, канцлер ВКЛ:**

***«Прыстойнаму чалавеку няма нічога***

***даражэйшага за свабоду,а няволя так павінна быць агідная, што не толькі скарбамі, але і сьмерцю яе ад сябе адганяць абавязаны».***

А таксама -- ў 2020 годзе:

“”’***Беларусы павінны паверыць у сябе. Не чакаць, што нехта ім дапаможа. Памажыце сабе самі, і тады вам дапамогуць і іншыя.***

***Калі беларусам захочацца хацець,***

***то ў вас будзе прыгожая Беларусь. Але многім у вас ня хочацца!!!!!!!!”” --- Лех Валенса, лаўрэат “Нобельскай прэміі”***

**МіКРААРТЫКУЛЫ**

Спадарства!

Мы , наша Беларусь, зараз маем вельмі пагрозлівы час, можа нават , гэты год, (2020 ) вырашае БЫЦЬ, ЦІ ня БЫЦЬ БЕЛАРУСІ…. ТАКІ ЧАС, прымушае больш грунтоўна аналізаваць : ЧАМУ ? І Чаму ў нашых эўрапейскіх суседзяў інакш – яны бліжэй да Дэмакратыі рэальнай. Я чытаю і польскі інтэрнет ( але разам на 6-мовах).\\\ 4 чэрвеня 2019 і 04.06.1989 = 30 год дарогі да Дэмакратыі палякаў,яны палепшылі сваё жыццё ў 5 (!) разоў.(50% ад USA) Але чаму? І\ Бо палякі **ХАЦЕЛІ** мець ДЭМАКРАТЫЮ ІІ\\ Бо палякам вельмі істотна дапамог ЗАХАД І\ -1) 10 мільёнаў у “Салідарнасьці”ў 1980- грунт перамогі ў 1989 2) не зрабілі контррэвалюцыю па шоку Бальцеровіча{рынкавыя рэформы}
ІІ\ 1) ЗАХАД ануляваў каля 40млрд.$ пазыкі 2)Францыя давала велізарныя грошы Л.Валенсе на “змаганье”

3)Італьянскія сацыялісты надрукавалі (за свае грошы, экв.110 000$) агітацыённых налепак , 8 тонн, а італьянскія камуністы (!!!) -2000 агітплякатаў для польскай апазыцыі ў 1989—на выбары і шмат іншага.

Але ГАЛОЛЎНАЕ, ЧАГО палякі ня хочуць прызнаць і пагадзіцца: менавіта, **Масква**, дарадцы М.Гарбачова, ужо ў 1987г. прапанавалі ўраду (і партыі) (і Ярузельскаму) арганізаваць "КРУГЛЫ СТОЛ" з АПАЗЫЦЫЯЙ—***дамовіцца***.

З ЧАГО ПАЧЫНАЕЦЦА РАДЗІМА???????...

У нас Беларуская Мова мае ДЫСКРЫМІНАЦЫЮ…. –Дык з чаго пачынаецца Радзіма?- Радзіма пачынаецца з абароны НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КАШТОЎНАСЬЦЕЙ, з АБАРОНЫ ГОДНАСЬЦІ (гонару) НАЦЫІ, як для нас, - АБАРОНЫ ГОДНАСЬЦІ БЕЛАРУСАЎ, ПЕРАД УСІМ, ад хлусні і паклёпаў, на нас, у іншых краінах!

Вось у такой абароне Годнасьці, нам – беларусам, трэба браць прыклад у палякаў, якія нават ( то занадта) за абразу польскай мовы, убіваюць нож у цела крыўдзіцеля…..

***КАГО ЛЮБІШ*** ?

*ЛЮБЛЮ БЕЛАРУСЬ*! ( але не лукашенкаўскую)…

Ім ня трэба "людзьмі звацца" – яны і ёсьць людзьмі – ЧАЛАВЕКАМІ, Homo sapiens! Гэта яны -- НАРОД, тыя БЕЛАРУСЫ, **якія прыехалі ў Вільню** каб пахаваць, з годнасьцю , парэшткі Кастуся Каліноўскага і іншых ваяроў за Свабоду , за Беларусь! Яны паказалі , што яны і ёсьць сапраўднымі Беларусамі – патрыётамі сваёй Радзімы…

Была холадна, мароз, вецер але людзі стаялі  на катэдральнай плошчы і ніхто не наракаў, ніхто не  “грэўся” алкаголем. Я не заўважыў нават дым аб цыгарэтаў.. Беларусы паводзілі сябе вельмі цывілізавана.   Мая ацэнка: на пачатак шэсьця з трунамі , Беларусаў была некалькі тысяч! \\\\ Гэта ва умовах цяжкасьцей  з атрыманьнем “візы”….  ( Я не рабіў здымкі  -- якасныя здымкі рабілі прафесійныя журналісты)   22 –23  лістапада 2019 г. для мяне былі самымі радаснымі днямі за апошнія 20 год. Дарэчы, нават Старшыня Рады БНР ,Івонка Сурвіла, сказала, што яна “у раю”. Яна была ў Вільні.\\\ Пад час вячэрняга шэсьця 23 лістапада, таксама была многа Беларусаў,  былі і беларускія патрыятычныя песьні і наш вокліч:

***ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!***

<u>БЕЛАРУСЬ -- = усходняя “Швейцарыя” ? </u>І  геапалітыка.

Ці гэта рэальна?  Але,трэба адказаць на “?”: Чаму Гітлер не акупаваў Швейцарыю? Чаму існуюць мікрадзяржавы, такія як Люксембург, Монако, Андора..?,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,

Ці істотна для дзяржаўнасьці невялікай краіны палітыка суседзяў?

(Ці такія асобы ,як Алег Трусаў разумеюць  сэнс “геапалітыкі” ?.........)

Марыць мае права кожны чалавек, але толькі для сваіх асабістых пачуццяў,  а палітык павінен быць жорсткім рэалістам.\\\\ Чаму, немаленькая краіна (38млн. чалавек, фармальна\ 2 млн. –выехала\) Польшча запрашае войскі ЗША на пастаянную “дыслякацыю”?  Бо баяцца

бандыцкай Расеі, бо імперскі  менталітэт "*русских*" ніколі НЕ зменіцца. \\\\ Дарэчы рос.рэдакцыя РС (6.10.2019) паведаміла,што "***глубокая интеграция*» будет и в едином ГРАЖДАНСКОМ кодексе** (раннейшая навіна, Налоговый кодекс)—да 2021 года. А ШТО яшчэ?\\\

Дык ДЗЕ , КАЛІ нам, беларусам,  "светит»  быць Швейцарыяй?

==========================================

Мая выснова: Тыя людзі ( як Зянон Пазьняк), якія гавораць, што нам ня трэба "загніваюшчая Эўропа ( EU) , ці нават тыя – пра Швейцарыю, яны, ці ўжо ня здольныя думаць ( ці як  там) --- яны ворагі НАЦЫІ БЕЛАРУСАЎ.

,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,

"Швейцарыя" – ДЛЯ Беларусі, нашай Беларусі  абсалютна не рэальна – пустоя летуценьне, ідэялістычная мара. Чаму ?  Таму ,што **імперская** Расея ніколі не дазволіць на нейтралітэт Беларусі..Расея зробіць усё , каб праглынуць нашу Беларусь, нават не зважаючы на "дадатковы голас ЗА" у міжнародных органах.

Узорны прыклад **геапалітычнай сітуацыі** – гэта Польшча 1989 года, калі СССР ужо меў пачатак "канца" і, кіраўнікам СССР не была магчымасьці уплываць на жыццё  "сяброў сацыялістычнага лагеру".  Польшча пачала свой шлях да Дэмакратыі,з ІСТОТНАЙ ДАПАМОГАЙ ЗАХАДУ.

А вось у 1980 г. для Польшчы , як і ў 1968г., для Чэхаславакіі,  яшчэ не была спрыяльнай **геапалітычнай сітуацыі.**

ЧАМУ ?

Чаму іншыя краіны, значна меньшыя нашая Беларусі могуць развівацца без “подачек Кремля”? Чаму калгасны дыктатар Лукашенко так баіцца… Ён думае, што калі не накарміць кароў і быкоў, то быдла “разнесе” кароўнік? Няўжо большасьць насельнікаў Беларусі такое быдло – трэба толькі”кармёжка”- грошы, грошы … І не істотна, якім чынам яны здабываюцца….?

Няўжо беларусы горшыя за чэхаў, славакаў, палякаў, латышоў, эстонцаў і іншых, постсавецкіх народаў, якія згадзіліся на РЭФОРМЫ і ідуць па свайму незалежнаму нацыянальнаму шляху?\\\\\

Ці прычына адна: “гісторык” Александр Лукашенко з усяго навучэньня памятае толькі адно: хто валодае эканомікай (сродкамі вытворчасьці, фінансамі і г.д.) той мае поўную уладу, то бок ДЫКТАТУРУ?(і ЗРАЗУМЕЛА, што без подачек Путіна дыктатуру не захаваць)

МОВА, ГІСТОРЫЯ,КУЛЬТУРА—гэта глеба на якіх можа быць (!!!) стабільная дзяржава! І зноў Лукашенко схлусіў адносна Беларускай Мовы.

Закон БССР ,аб Беларускай Мове, **даваў 10 год на “беларусізацыю Беларусі”**. Лукашенко кіруе 26 год – можна была вельмі”паціху” рэалізаваць КАНСТЫТУЦЫЙНАЕ ПРАВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ. Але не . Чаму? Паміж “Сцілай і Харыбай”*** Так, дыктар вельмі баіцца, “красной черты” Москвы. А “черта” стварыла калідор улады дыктатара. Так бы, “з левага ”боку —забарона беларусізацыі БЕЛАРУСКАГА грамадзтва (то бок забарона Канстытуцыі РБ), а “з правага” боку забарона карыстаньня дзяржавай РБ БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ.### \\\ Калі забыліся, я паўтараю, што для дыктатара

А.Лукашенко ягоная ўлада = ягонаму фізічнаму жыццю. ( “до последнего патрона”)А зладзіў ён “РАЗГОВОР”   каб ПАКАЗАЦЬ Кремлю, што “белорусы против аннексии»-- гэта галоўная мэта “Разговора”. І ня трэба падманвацца, што дыктатар Лукашенко абароніць незалежнасьць нашай Беларусі. “Анексія Беларусі” можа быць “ціхая”— дастаткова большасьць “суб’екту дзяржавы”,грамадзянаў, зрабіць «сознательными русскими»  і – фармальнасьць «присоединения»  ня будзе праблемай.\\\\ *** Сцілай і Харыбай” – гэта міфічныя рухомыя скалы на моры, паміж якімі трэба праплыць.\\\ .### Абсалбтную знявага да нашай Мовы дыктатар паказаў,калі заявіў, што законы (дзяржавы Беларусь) на беларускую мову павінен перакладаць **Недзяржаўны** універсытэт! Якога нават яшчэ няма.

==================================================

Дарэчы,пабачым,як дыктатар рэалізуе сваё “абурэньне” расейскай прапагандай.Мой прагноз -  НІЧОГА не зробіць. Баіцца Кремля.

## ГЕНЫ

300 ГАДОЎ РАБСТВА  адклаліся ў генах, але рабы таксама любяць грошы.

Для “белорусов” найвялікшай крыўдай – гэта “залазіць яму ў кішэнь”.

Таму адмова бандыцкай Расіі прадаваць нафту па нармальных ( і нават па сусветных цэнах – словы Начальніка Беларусі)  цэнах  -- гэта “залазіць ў кішэнь” белоруса, то бок , большасьці насельнікаў РБ. Бандыцкая Расея хоча ( у чарговы раз) абрабаваць беларусаў.  І нават нехлямяжныя насельнікі РБ ( з дапамогай Начальніка Беларусі) зразумелі хцівыя памкненьня пуцінскай Расеі.

Больш таго, Начальнік сказаў :” Идёт ВОЙНА!» -- зразумела, што ВОЙНА на нашу Беларусь з боку России! А калі “Вайна” , то – трэба арганізаваць ПАРТЫЗАНСКІ РУХ супраць агрэсара. \\\\\ КГБ-ст Владимир Путин (бандит),у чарговы раз, «пролетел», як гэта была з «русскими» Адэсай і Харькавым.

P.S. Псіхолагі зрабілі абгрунтаваную выснову: псіхалёгія людзей шмат стагоддзяў застаецца аднолькавай. Адпаведна:”ХЛЕБА и ЗРЕЛИЩ» .Дыктатар Лукашенко забяспечыў насельнікаў відовішчамі, а вось з “хлебам”, то бок эканомікай – праблемы. А таму, вельмі верагодна, што ў”застенках” Валаама бандыт Путин “нагнул” А.Г.Лукашенко і, пачнецца паступовае разбурэньне дзяржаўнасьці Беларусі… (“рубить хвост частями») і 2023 – канец РБ……….

Дзіўные “белорусы

“Яны плакалі… (РС аб назіральніках) , бо іх выкінулі з “выбарчых” участкаў.

Я шмат чага бачыў і здаецца, не магу здзіўляцца… Але, пасля 23 год (ад 1996) РЭАЛЬНАЙ ДЫКТАТУРЫ калгасніка ,байструка,Лукашенко, плакаць ,калі ТВАЕ ЗАКОННЫЯ ( нават па законах Лу) ПРАВЫ парушаюцца -- гэта ўжо ( выбачайце) дэбілізм.\\\\ Кожны раз, пад час кожнага ВЫБспектаклю знаходзяцца людзі,які прачынаюцца, разплюшчываюць вочы… і так ,у кола…

“ГУЗІК… –ЁН АДАРВАЎ ГУЗІК….” ******

Чым можна абразіць “белоруса”? Мы памятаем вельмі папулярныя словы: “*Расея зараза не дала нам газа*”…. Гэта была, калі пуцінская Расея спыніла пастаўкі газа ў Беларусь… Ад пачатку 2020-га, пуцінская Расея спыніла пастаўкі нафты ў Беларусь… І ? Не можа быць аб’ектыўных сацыялагічных апытаньняў адносна палітычных праблемаў у краінах дыктатуры…. Але нейкія “тэндэнцыі” можна вылічыць…. Дык вось. З’явілася сацыялагічная інфармацыя , што грамадзяне Беларусі вельмі рэзка заніжылі свае сімпатыі да пуцінскай Расеі.. Я думаю, што гэта так і ёсьць. Бо «дружба дружбой --- а денежки врозь»\\\ *** “Народны Альбом”

“Белоруская інтелігенція”

1995 –й з чарговай Кнігі…… Выбачайце, спадарства , але я не магу ўстрымацца ад каментару…. Вось зараз, (як і тады) беларуская інтэлігенцыя сьпіць, (ДЗЕ т.з. “Рада…?.) і людзі, якія лічаць сябе дэмакратамі, СЬПЯЦЬ, калі лёс нашай Дзяржавы –Беларусь ужо вызначаны ў Маскве…\\\\ ТАК спалі і тады, у 1995, ГОД- ганебнага Референдума і ідіотскіх “выборов”…. Сяргей Навумчык,напісаў чарговую кнігу аб сучаснай Гісторыі Беларусі (апошнія 24 гады – “президенство”). Дзякуй яму за ФАКТЫ, ён робіць працу дакладнага гісторыка. \\\\\ Але, ён, сакратарка ЗП, не даў ( у чарговы раз) вельмі істотныя факты. Напрыклад. ЧАМУ НЕ БЫЛО АГІТАЦЫІ “дэмакратаў”, **арганізацыі, структураў** БНФ супраць ганебнага Референдума ? ? ? – Дык я адказваю. Нам, БНФ-м кіраўніцтва БНФ сказала, што ня будзем

“распыляцца”--- выйграем выбары ў Парлямент – АДМЕНІМ ганебны “Референдум”! Во як! Выбары БНФ прайграў у шчэнт –нават АДНАГО дэпутата не атрымаў БНФ.( нагадаю, рэальна, толькі АДЗІН дэпутат ад БНФ мог быць – Грыцук Валеры, Менск, Уручча, гл.—grycuk.livejournal.com.) \\\\ Гераічная галадоўка дэпутатаў БНФ была (ад пачатку) вызначана на паразу.(Чаму ?) – А якія дэманстрацыі, забастоўкі на заводах, як пратэст супраць бандытызма Президента Лукашенко былі ???? Аніякіх! Нават сярод БНФ-цаў не было жаданьня (і нават “каманды” зам.ЗП) пратэставаць - зладзіць дэманстрацыю. (Чаму?) Адказ: -1992 год –галоўнае ,гл.grycuk.livejournal.com.i,канешне,брудная прапаганда людзей Лукашенко.

Спадарства ! Калі нас (не мяне- я і тады гаварыў і дзейнічаў) не навучыў 1995-й , абсалютная млявасьць ў 1996-м (і здрада псеўдадэмакратаў), пасіўнасць (страх) д\макратычных лідэраў 2001-га…… КАЛІ, людзі, якія лічаць сябе дэмакратамі, БЕЛАРУСЫ, не прачнуцца, не пачнуць дзейнічаць, то мы згубім Дзяржаву, згубім Беларусь. …

А тым часам РС т.з. “беларуская рэдакцыя” праз Ю.Дракохруста распаўсюджвае фальшывую (ФЭЙК) інфармацыю аб”Союзе” з Расеяй. Хто ведае Гісторыю, то ведае як наш “СОЮЗ” (беларусаў) ВКЛ з “Каралеўствам польскім” скончыўся татальнай дыскрымінацыяй беларусаў, то бок, анексіяй (сучаснай мовай) праз палякаў.

Дык ШТО –паўторым ? Але з русскими ? (Але ж то было…) Гл. папярэдні тэкст.

Малады “ *глыбка веруючы*” беларус НЕ разумее

Адкрыты АДКАЗ Зьміцеру Дашкевічу адносна выбараў ### 2001 ---2010…………Перадусім трэба абавязкова памятаць 1999 год—Год , які злавесным ценем будзе каля апазыцыйных палітычных лідэраў увесь наступны час. Дашкевіч,хлопчык, гэтага не разумее. --- Дык чаму апазыцыя не здолела здабыць “пасаду Прэзыдэнта”? -----2001г. Усе палітычныя лідэры дрыжалі ад страху, кожны з іх думаў:”*Заўтра можа я знікну”* *** **Адпаведна ,аддалі справу выбараў сакратару КПБ.** Хто памятае аб акцыях апазыцыі пад час канстытуцыйных прэзыдэнцкіх выбараў, 1999г. ? – Бо не была акцый. Страх лідэраў апазыцыі – таксама прычына адсутнасьці падрыхтоўкі да 2001 г. Страх –прычына дэбільнага “рашэньня” фактычнага байкоту апазыцыяй выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў . ……

ВЫБАРЫ 2006г. Страх застаўся, але дадалося неразуменьне таго, што не час на “сімпатыі і антыпатыі” да Адзінага. Трэба была РАЗАМ УСІМ дэмакратам працаваць на перамогу. (але палітычныя актывісты “пакрыўдзіліся” – і не працавалі) Перамога дэмакратаў была рэальна магчымая -- ……

ВЫБАРЫ 2010. “*Калі не ён – дык хто?”* Памятаеце? Дык правільна зрабіла Апазыцыя: вось вам Кандыдаты на розны густ і сімпатыі.. Але жыхары РБ (чарговы раз) праглынулі ”крючок с наживкой». Яны не захацелі выбіраць Прэзыдэнта – яны выбралі “ па 500”.

Менавіта 2010 год быў апошнім годам, калі можна была праз выбары захаваць БЕЛАРУСЬ, нашу Беларусь,якая мела бы БЕЛАРУСКАГА Прэзыдэнта.\\\\\

Дашкевіч, выключна, па дзіцячаму, выбраў такую форму самаапраўданьня: “*добра ,што не перамаглі”,* што ==

“*а мне и не очень то хотелось*»\\\\\\\\\\\\\\

Зьміцер Дашкевіч не адказаў на мае заўвагі ва “паведамленьні” да яго “фэйса”.

**** Падрабязней будзе ў маёй чарговай Кнізе. (пішу){ І я не стаўлю каментары да РС , svabodaorg– я не задаволены іх працай для Беларусі БЕЛАРУСКАЙ }

МАЛАДЫМ БЕЛАРУСАМ ПРАПАНУЮ

(але і іншым будзе карысна прачытаць , падумаць, [можа]паспрачацца)………………..

Дык даю вам маю кароткую Лекцыю – чытайце і ДУМАЙЦЕ МОЦНА.

Дык пачнём:

І\адукаваны чалавек (і маральны) павінен даваць ( карыстацца) дакладныя факты (не ляпаць як “на базаре”)

ІІ\разумець, што Слова (-ы) гэта пачатак дзеяньняў; разумець семантыку слова, а таксама “нарацыю” (як гаворацць палітолагі)

ІІІ\разумець (ацэньваць, прагназаваць) як словы могуць зашкодзіць (спрыяць) нейкай дзейнасьці, ці (у нашай тэме) лёсу дзяржавы.(памятаеце словы бандыта Путіна [абаронім рускую мову] і Украіну.) ???

ІУ\разумець кантэст сітуацыі вельмі шырока ( бо Сьвет глабалізаваны)

У\разумець суб’ект (ягоную ісьцінась ,”праўдзівасьць”)

УІ\разумець (для палітыкі) геапалытычнасьць праблемы і рэакцыю розных палітычных актораў на праблему

УІІ\разумець і ведаць, што моц супольнасьці (народа,

нацыі) грунтуецца ня толькі на фактах , але і на міфах, на прынятых ,з агульнай згоды,нейкіх канцэпцыях.

УІІІ\ разумець і ведаць, што дзеяньні (чыны), альбо бязьдзеяньні аднаго суб’екту могуць быць выкарыстаны іншым суь’ектам.

ІХ\ разумець і ведаць сваю асабістую ролю (дзейнасьць) ў грамадзкім (палітычным) працэсе

Х\ разумець і ведаць, што сучасны Сьвет (з большасьці ,агрэсіўны) і ,асабліва , палітыка бандыта Путіна накiравана (перадусім) на дэмаралізацыю і палярызацыю (унутраных войнаў) суседзяў і ,цалкам, Заходу.

……………………………………………………………

Бывайце здаровы ня толькі целам ,але і “духам”

P.S.Чытайце мае тэксты на фэйс- буку.( Канфармізм беларусаў заўсёды прыводзіў да знішчэньня беларусаў) --- { Валеры Грыцук, аналітык}

<u>«*Белорус*» из-за куста</u>

ПАРАЛЕЛІ. Вось на “facebook” , бывший командир спецгруппы «Альфа» КГБ СССР ( забойства, дыверсыі) увесь час бэсціць беларускую апазыцыю…А што ён САМ зрабіў для Беларусі? Пагражаў ( і быў гатовы) знішчыць Беларуская ТБ у 1991 ? Зачытаў тэкст прысягі ў 1992 годзе? Кантактаваў з адстаўным генералам МУС Захаранка ? Што больш ? Ён, т.Бородач, мог мець толькі адно , па “спецыяльнасьці”, “задание»: зліквідаваць Лукашенко… (Што была магчыма да 2011 года – мой аналіз, як афіцэра, у запасе) Але ён не захацеў, ці “ у нагавіцыы наклаў” са страху , таму і збег да немцаў. Вынік ведаем. \\\

т.Бородач, выбраў “работу философа”: разгромную крытыку апазыцыі. Чаму ? Можа ў яго такое “задание»… Але ад каго? Ці разумее ён тое, ШТО піша?

## ШТО АПАЗЫЦЫЯ?

1) Апазыцыя -- гэта ня толькі “лідэры” і вядомыя імёны, але тысячы дэмакратычных ( па жаданьню) людзей. У Фіделя Кастро была меньш “байцоў”.. і ён скінуў капіталістаў. А чаму МЫ ня можам скінуць дыктатара?

Ці трэба біць знясіленага каня, каб ён хутчэй цягнуў “вазок”? 1) Беларускай нацыя знясілена перманентнымі знішчэньнямі, стагодзямі – ген Беларуса вельмі слабы. 2) У Кастро не была агрэсіўнага суседа ( дробязі ЗША – адкінем) **Беларусы маюць агрэсіўную Расею і бандыцкі Кремль**. Гэта бандыт Ельцін расстрелял Парламент РФ у 1993… Гэта бандыт Ельцін запатрабаваў : “*НЕ ТРОГАЙТЕ ЛУКАШЕНКО!*-- у 1996-м (агента российского КГБ, ад 1992г) Гэта бандыт Путин пагражае Беларусі, ликвидацией…\\\\ А што «народ» наш? ( чаму няма пытаньняў да Масквы? )

Дык вось «параллели» -- дзе тые «замежныя турысты»?

Дзе тая грамадзяне РБ, тысячы , якія вывучалі эўрапейскі ( меньш ЗША) “вопыт” ? Як яны агітавалі насельнікаў РБ для “Дэмакратыі” у 2006-м (для “Адзінага”) у 2010-м, для кандыдатаў на кожны густ? Не была іх.

Я гэта ведаю, як сябра-заснавальнік Фонду імя Льва Сапегі. Наш Фонд вывез на “загрансемінары” сотні людзей. Дзе яны ? Пабылі турыстамі, атрымалі “камандзіровачныя” і на ўсё забыліся. (так , “эксперты”, навукоўцы, нешта потым напісалі). Дык УСЕ яны нібы таксама “апазыцыя”.

Я ведаю , што шмат людзей ад партый , асабліва, сацыял-дэмакртаў, таксама былі “замежнымі турыстамі”.. Эфект ?

Дык ЧАГО хацець ад “АПАЗЫЦЫІ” ? Калі “народу” ня трэба Дэмакратыя!

Калі спецназавец Бородач не выканаў сваё “задание» --- галоўную справу Беларуса-Патрыёта.

… (Вельмі выгодна біць “ляжачага”, што пастаянна робіць полковник Барадач)

………………………………………………………

Але, у краіне татальнага Жаху, бязь істотнай дапамогі ,перадусім, грашовай, Апазыцыя ня зможа скінуць дыктатуру з цела нашай Беларусі.

Нехта скажа: дык даюць даляры , эўра… Даюць.Гэта як параўнаць:ад нас Захад патрабуе “ехаць 120 км\гадз., а грошы даюць толькі на ровар (велосипед- рус.)

Вядомы публічны ФАКТ: USA, на працягу 10 год, дала **кыргызскай** Апазыцыі **1 МІЛЬЯРД $! І кыргызы скінулі дыктатараў.** Насельніцтва там ,у 2-а разы меней чым у РБ. Апазыцыя Беларусі , нават за ўвесь час (ад 1992 г…) дзейнасьці не атрымала 1-го млрд$! Па маім , падлікам ( з СМІ і “мадэлі”), Беларуская апазыцыя ,за ўвесь час атрымала ня больш як 100 мільёнаў**$ і эўра!**

Так , памылкі лідэраў Апазыцыі былі і, інэртнасьць ,увогуле была і ёсьць. Апазыцыі была і ёсьць слабая …

АЛЕ ЯКІ ”НАРОД” – ТАКАЯ і АПАЗЫЦЫЯ!”, дзе “народ” вельмі лёгка купляецца.

Забыліся пра абяцаныя “500” дыктатара !? І ---“ *Ён нам пенсію дае*”,-- перакананьне пенсіянераў-ідыётаў ( такіх,

калі не большасьць, то, вельмі многа)    Усё гэта даўно трэба была зразумець  т.Бародачу…. калі ён не сексот… і іншым “крытыкам” апазыцыі.

яяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяяя

***  Я працаваў ( быў) сябрам ЧК па даследваньню дзейнасьці ГКЧП у Беларусі (афіцыйна) Але я не магу вам паказаць фота  дакумента --  дыктатура забрала ў мяне ўсе мае рэчы і дакументы..

Я ведаю (я  рабіў допыт кіраўніка ТБ) , што командир спецгруппы «Альфа» пагражаў Сталярову (кіраўнік ТБ) знішчыць Беларускае тэлебачаньне і ,быў  гатовы гэта зрабіць.

А “народ “ – як    гарод

Вядома, што большасьць насельнікаў нашай Беларусі – гэта вялікія гультаі  для думаньня, жаданьня зразумець сітуацыю, яны звяртаюць увагу толькі на “сенсацыі”, цэны, ці калі па ўласнай “сраке” атрымаюць... Але ,калі мы (дэмакраты, патрыёты Беларусі) не растлумачым гэтым насельнікам, што «глубокая интеграция = захвату Беларусі путинской Россией» , то Беларусі ня будзе. Тлумачыць трэба праз расійскую непутінскую (не “ТВ”) інфармацыю. Тлумачыць праз няздольнасьць “порядка” у Расеі (пажары, катастрофы і г.д.), пра катастрафічную сітуацыю ў ахове здароўя і, і… Пра тое ,што 69 расейскіх рэгіёнаў маюць эканамічны крызіс …. Праз факты, толькі факты.
Бо,  Мараль,Прынцыпы , дыктатар Лукашенко знішчыў.
У РБ пануе толькі адно правіла:” не пойман  - не вор”…..
і “закон”-- гэта  Приказ диктатора.

Зразумела , што ёсьць Беларусы, ёсьць Чалавекі, ёсьць нават сярод супрацоўнікаў “КГБ” людзі якія супраць Расеі…. Але, але….

"***Такая*" апазыцыя; галоўнае.** Толькі факты.

Апазыцыя (мы – дэмакраты) зрабіла 6 !!! базысных памылак ,якія вызначылі лёс Беларусі.

I\ 1992 – не абаранілі РЭФЭРЭНДУМ

II\ 1994 – НЕ падтрымалі **рэальнага** Кандыдата ,

III\1995. НЕ змаглі ачуняць ад паразы 1994-га і ,рэальна мець больш ДЭПУТАТАЎ у ВС ( гэта была магчыма###)

IIIа\НЕ пратэставалі (не тлумачылі людзям) супраць ганебнага "рэферэндума" IV\ 1996 – РЭФЭРЭНДУМ— абсалютная дэзарганізацыя (ці сьвядомая шкодная дзейнасьць некаторых) лідэраў Апазыцыі.

Чаму лідэры НЕ заклікалі Народ, які стаяў на Плошчы ІСЬЦІ да **Канстытуцыйнага Суду** – там вырашаўся лёс Беларусі… як тое , у 1991-м –у ВС! Гэта ж была зразумела (для мяне\ і тады\ ,напрыклад, -- але я не быў Начальнікам -Лідэрам; да таго ж навукоўцы не любяць лезьці ў "вожди»)

V\ А-1999 ГОД --- "лідэры" схаваліся, а дэмакраты былі паралізаваны т.з. "выбарамі Ганчара"

V\ Б - 1999 ГОД – лідэры Апазыцыі так былі застрашаныя дыктатурай , што "абвесьцілі байкот" /дэбілізм\ выбарам у "МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ ДЭПУТАТАЎ"-- а быў шанец мець вялікую колькасьць дэмакратычных дэпутатаў. (але 2000 ГОД – правільны байкот у нелегітымны орган)

V\ В - 2001 ГОД – лідэры Апазыцыі так былі застрашаныя забойствамі Захаранка і Ганчара, што аддалі КАНДЫДАТА, камуністу Лявонаму………

--- ад 1999-га не была падрыхтоўкі апазыцыі да выбараў Прээзыдэнта

VI\-- 2006 год- НЕПАДТРЫМКА "АДЗІНАГА " КАНДЫДАТА. Большасьць Апазыцыі, дэмакратаў, (не лідэраў) **,рэальна** збайкатавалі непалітычнага (NGO) каандыдата – ПЕРАМАГЛІ ЭМОЦЫІ, а не разум.\\\\\\

I гэта ўсе істотныя памылкі.

Далей, хоць круць – хоць верць, а цягнік ідзе па рэйках.

==========================================

### Але , я паказаў, на прыкладзе менскага Уручча, у 1994 ( там, **дзякуючы мне,** перамог Зянон) і ў **1995**-м –я перамог кандыдата ад улады на выбарах у гарсавет. Я паказаў, што калі рэальна ПРАЦУЕШ – патрэбны вынік будзе.

Але, перадусім, праблема не ў Апазыцыі --- праблема ў насельніцтве, паводзіны якога (90%) – паводзіны курэй: дзе сыпнуць зерне –туды і бягуць, а Петуха баяцца!\\\\
Я добра ведаю сітуацыю ў краінах Дыктатуры, "рэспубліках" былога СССР. Што там Апазыцыя зрабіла ? Перамагла дыктатара ? –НЕ і НЕ ! Нават,у Расее, дзе была (раней) значна больш Дэмакратыі чым у нас , дзе ёсьць вольны бізнес. Нават у Таджыкістане, дзе Апазыцыя была доўгі час у Парламенце, але іхняя дзейнасьць НЕ спыніла пераход (!!!) краіны да Дыктатуры.

Такія " вообще» дэмакраты

Праблема дэмакратаў Беларусі ў тым, што шмат хто проста лянуецца рабіць "непалітычныя" карысныя справы для жыхароў, а таксама баіцца пагоршыць сваю асабістую сітуацыю.

Але факты паказваюць, што ўжо ёсьць давалі значная супольнасьць, якая не хоча удзельнічаць у "политике", але можа падтрымаць сваімі грошамі апазыцыянера.

Таму, задача сёньня для беларускіх дэмакратаў актыўна пачаць абараняць <u>жыхароў у кожным выпадку іхняга канфлікту з уладай, у КОЖНЫМ</u>!

ЦІ ДУЛЯ Ў КІШЭНІ, ЦІ САПРАЎДНЫ БАЙКОТ?.................................

Так, Я разумею, што большасьць жыхароў Беларусі – рабы, але я не магу паверыць, што большасьць беларусаў - ідыёты. ………………..

Пачаўся чарговы спектакль дыктатуры “выбары”….. (2020 год) Некаторыя эсперты (“блізкія да ўлады”) спрабуюць стварыць інтрыгу і нейкую “надзею” (Шрайбан). Але зробім кароткі аналіз для разумных людзей.-----

Пытаньне№1: Які канец выбараў? Пытаньне №2:выключна ў межах права можам мы ,ці НЕ можам абскардзіць вынікі выбараў? Пытаньне №3:за колькі мільёнаў даляраў можа прадацца Ермошина? Пытаньне №4: ці памятаеце вы што зрабіў Лукашенко з кіраўніком “ЦВК” Ганчаром? ---- Дык што?

Адказваем.

№1: Лидия Ермошина чытае паперку,якая падрыхтавана самім дыктатарам, то бок, Лукашенко. №2- мы , НЕ можам абскардзіць вынікі выбараў, “*не подсудно”*— т.з. рашэньне Вярхоўнага Суда. (але у кожнай дэмакратычнай дзяржаве “подсудно”.) №3- Лидия Ермошина канешне хацела бы быць $мільянерам, але жыццё даражэй.(памятаеце? “Отстреливаться буду до последнего патрона»). I хто перашкодзіць дыктатару паказаць “неошибочный протокол» - исправить ошибку? №4 -АБСАЛЮТНА НЕЗАКОННА, СІЛАЙ, САБАКІ Лукашенко выкінулі

Ганчара з кабінета. ХТО гэтаму “беспределу” перашкодзіў ? А яшчэ былі тады сапраўдныя дэпутаты ВС.

\\\Апошняе. ДЗЕ , у ЯКОЙ краіне “выбарамі” выкінулі з “крэсла” дыктатара?----

Выснова:ТОЛЬКі БАЙКОТ! Які пакажа дыктатару Лукашенко “красную карточку»-- **УХОДИ**!!!

МЫ - БЕЛАРУСЫ

Мы павінны памятаць, што Беларусы, якія абвясьцілі НЕЗАЛЕЖНУЮ СУВЭРЭННУЮ БЕЛАРУСЬ – БНР, у 1918 годзе ўсведамлялі, што толькі такая Беларусь захавае і дасьць магчымасьць **развіцця Нацыі Беларусаў**, беларусам “***людзі звацца***

Я хачу нагадаць, ШТО ёсьць падставай Нацыі… Гэта Мова!

Прыклады?

У Германіі бацькам (бацьку дзіцяці ,не немцам, які вымушаны быў \была, для маці\ пакінуць сям’ю) улады ЗАБАРАНЯЮЦЬ размаўляць са сваім сынам (дачкой) на сваёй Мове! Толькі на нямецкай !

70 –гадовую жанчыну (з Турцыі, але яна жыве на стала ў немцах) суд ПРЫМУСІЎ вывучыць нямецкую Мову! І гэта ў моцнай Германии!

У Францыі (у сучасным “Вавілоне”) адзінай Мовай зносін ёсьць французская Мова! Катэгарычна забараняецца у працоўны час размаўляць на НЕфранцузскай мове.!

Далей ( праз гугль) знойдзеце яшчэ прыклады… (ня бярыце да галавы казкі пра шатляндцаў, ці паміраньне нацыі ірляндцаў і г.д. )………………..

То бок, падставай стабільнага існаваньня і развіцця Беларусі, дзеля абароны сваёй інфармацыйнай прасторы, а то – нашых мазгоў (перадусім ад агрэсіўнай імперскай Расіі) можа быць толькі  БЕЛАРУСКАЯ МОВА, дзяржаўная па Канстытуцыі і дыскрымінаваная ў рэальнасьці.

Гэта добра зразумеў “калега” дыктатара Лукашенко— Н.Назарбаеў, які  ня толькі, прыняў Праграму: цалкам перайсьці на казахскую мову (у бліжэйшыя гады) , але да 2024 перайсці на **лацінскі** альфабет.! Дарэчы ў Казахстане дзе этнічна рускіх  больш чым у Беларусі (% ) – 65 % дзяцей вучыцца на казахскай Мове!..............................

Але ня толькі Мова абароніць нашу Беларусь! Мы самі, усе беларусы і сябры беларусаў – грамадзяне РБ, павінны сваімі мазгамі, свядомасьцю,  зразумець, што НЕЗАЛЕЖНАЯ СУВЭРЭННАЯ БЕЛАРУСЬ – гэта ня толькі магчымасьць развіцця нацыі беларусаў, але наўпрост магчымасьць  быць багатымі. Прыклад?

Гэта і замежныя інвестыцыі (заходнія), новыя тэхнялёгіі ва ўсіх галінах нашага жыцця і  гаспадаркі … І наўпрост “капаньня” замежнай валюты. Як ? Балгарыя прадала сваіх пашпартоў замежнікам на амаль 1 мільярд даляраў, Аўстрыя – на амаль 800  тыс. эўра ; блізка да іх Кіпр…  То бок ,за “паперку” але з пячаткай СУВЭРЭННАЙ ДЗЯРЖАВЫ  можна мець рэальныя грошы, а гэта ў бюджэт дзяржавы, то бок для насельнікаў гэтай дзяржавы. Але толькі тады, калі такая дзяржава прывабная . Ды не продаж “грамадзянства” галоўны “даход”. Галоўнае  --- СВАЕ ЗАКОНЫ, СВАЯ прамысловасьць, СВАЕ ідэі… СВАЯ праца на СЯБЕ , а не на “восточного соседа”… Праца на карысьць добрай будычыні сваіх (нашых) дзяцей , унукаў, праўнукаў…

